ШТОТЫДНЁВАЯ ГАЗЕТА ДЛЯ СУАЙЧЫННІКАЎ ЗА МЕЖАМІ БАЦЬКАЎШЧЫНЫ

# Голас Радзімы

№ 13 (2571)

2 красавіка 1998 г.

Выдаецца з 1955 г.

Цана 1500 рублёў.

### З МІЖНАРОДНАЙ ВЫСТАВЫ «БЕЛАРУСЬ—МЕДЫКА-98»

## МЕДЫЦЫНА ДЛЯ НАС

У МІНСКУ прайшла V міжнародная спецыялізаваная выстава "Беларусь—Медыка-98". Нягледзячы на тое, што ў ёй прынялі ўдзел 200 фірм з 29 краін, яе характэрнай рысай стала вельмі шырокае прадстаўніцтва айчынных прадпрыемстваў і фірм.

Толькі ў мінулым годзе колькасць выпускаемых у Беларусі медыкаментаў павялічылася больш чым у два разы, а спіс айчынных лекавых прэпаратаў папоўніўся сарака новымі назвамі. На стэндах нашых фірм вельмі шырока была прадстаўлена і медыцынская тэхніка. Так, калектыўны стэнд "Медтэхніка Рэспублікі Беларусь" прадстаўляў прадукцыю 33 айчынных вытворцаў. Некаторыя распрацоўкі прыцягнулі асаблівую ўвагу наведвальнікаў. У прыватнасці, гэта тычылася распрацаваных ООО "СЭФбуд" ложкаў медыка-сацыяльнага прызначэння КМФ-8 для пацыентаў бальніц, састарэлых і інвалідаў, якія знаходзяцца ў хатніх умовах і дамах-інтэрнатах. Ложак распрацоўваўся як комплекс жыццязабеспячэння інваліда і састарэлага чалавека дома, аднак потым ён знайшоў шырокае прымяненне ў медыцынскіх установах. Ложак зроблены так, каб інвалід мог самастойна сябе абслугоўваць.

Як паказала даследаванне рынку, кошт беларускіх ложкаў на 200 працэнтаў ніжэйшы за аналагічныя нямецкай вытворчасці. Набліжаюцца па цане ложкі фінскай і італьянскай вытворчасці, аднак іх кошт усё роўна значна вышэйшы за беларускія. Паколькі кошт ложка ўсё-такі высокі, на сёння ООО "СЭФбуд" займаецца рэалізацыяй ідэі стварэння пракатнага цэнтра, дзе за вельмі ўмераную плату можна было б узяць ложак напракат на любы тэрмін. Цікава адзначыць, што ў Беларусі існуе нямала вытворчасцей, якія выпускаюць самыя розныя тыпы ложкаў.

Яшчэ адна цікавая распрацоўка, прадстаўленая на выставе, — рабочае месца зубнога тэхніка-пратэзіста. Раней такое абсталяванне закуплялася за мяжой, сёння яго аналаг выпускаецца віцебскім заводам "Эвістар". Гэты ж завод сумесна з інстытутам аховы мацярынства і дзяцінства распрацаваў інкубатар для інтэнсіўнага догляду за нованароджанымі ІВН-92, які дазваляе забяспечыць утрыманне неданошанага дзіцяці ў клінічных умовах. У інкубатары ажыццяўляецца не толькі кантроль за вільготнасцю, кіслародам, тэмпературай паветра і тэмпературай скуры, але і маніторнае назіранне за сэрцабіццём. Апаратуры такога тыпу не існуе ні ў

(Заканчэнне на 3-й стар.).

САЦЫЯЛЬНЫЯ ДАСЛЕДАВАННІ

## ПЕРШ ЧЫМ ХВАРОБУ ЛЯЧЫЦЬ, ТРЭБА ЯЕ ВЫВУЧЫЦЬ

**У многіх развітых краінах свету існуюць структуры, якія займаюцца зборам і прадстаўленнем вышэйшым дзяржаўным уладам разнастайнай аналітычнай інфармацыі. Нядаўна адпаведная ўстанова была адкрыта і ў Беларусі. Называецца яна — Інстытут сацыяльна-палітычных даследаванняў пры Адміністрацыі Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь, мае вялікі калектыў — больш за сто чалавек, якія вывучаюць асноўныя і найбольш актуальныя аспекты жыцця краіны і грамадства. Сярод іншых профільных падраздзяленняў тут распачаў сваю работу і Цэнтр сацыяльных праблем. Пра мэты і задачы даследаванняў, накірункі дзейнасці цэнтра расказвае яго начальнік доктар біялагічных навук, прафесар Антон ЧАШЧАВІК:**

— Як вядома, сёння ні адзін па-сапраўднаму прафесійны палітык ці кіраўнік ніколі нічога не зробіць, зыходзячы выключна з уласных поглядаў і адчуванняў. Шырокая інфармацыйная база, навуковая абгрунтаванасць — вось падстава любога, нават самага дробнага рашэння. Наш інстытут, і цэнтр у тым ліку, якраз і закліканы гэтаму пасадзейнічаць. Прыслухоўцца да нас ці не — лепш спытаць у тых, каму непасрэдна адрасуюцца рэкамендацыі. Але тое, што збор інфармацыі вядзецца нашымі спецыялістамі вельмі адказна і сур'ёзна, гарантую. Мы маем права запрошваць весткі з розных крыніц, арганізацый самага рознага ўзроўню. Ніколі не карыстаемся неправеранымі ці неафіцыйнымі данымі.

Наша галоўная задача — даследаванне сацыяльнай палітыкі краіны. Сюды адносяцца многія галіны — і культура, і міжрэлігійныя адносіны. Але ўсё ахапіць на належным узроўні пакуль не ўдаецца. Таму мы вырашылі засяродзіцца на трох асноўных напрамках: здароўі нацыі, адукацыі і сацыяльнай абароне.

Зараз сабрана інфармацыя па захворванню, смяротнасці і інваліднасці. Карціна вымалёўваецца вельмі трывожная.

Першая і самая сур'ёзная акалічнасць — пагаршэнне дэмаграфічнай сітуацыі. Тэмпы прыросту насельніцтва сталі зніжацца яшчэ ў 70-я гады, але асабліва інтэнсіўна гэта адбываецца ў 90-я. Калі ў 93-м годзе ў краіне нарадзілася на 11 тысяч чалавек менш, чым памерла, то ў 96-м ужо на 39,7 тысячы чалавек. Сучасны ўзровень нараджальнасці не забяспечвае нават простае ўзнаўленне насельніцтва.

(Заканчэнне на 3-й стар.).

### ПАШТОЎКА З БЕЛАРУСІ



**Капліца, устаноўленая на беразе Дняпра ў Рэчыцы, дзе ў 1912 годзе рабілі прыпынак параходы, што перавозілі святыя мошчы Ефрасінні Полацкай з Кіева, з'яўляецца сёння адной з шануемых і свяшчэнных пабудоў у горадзе. Маладыя прыносяць сюды кветкі, тут збіраюцца вернікі.**

**Фота Сяргея ХАЛАДЗІЛІНА.**

### *ТЫДЗЕНЬ ДЗІЦЯЧАЙ КНІГІ*





**Адкрыццё Тыдня дзіцячай кнігі, які прыпадае на веснавыя школьныя канікулы, адбылося ў бібліятэцы імя Янкі Купалы ў Мінску. Школьнікі з розных раёнаў горада сабраліся сюды, каб сустрэцца з беларускімі паэтамі і празаікамі на свяце новых кніжак. Ніл Гілевіч, Васіль Зуёнак, Артур Вольскі, Павел Місько чыталі юным сябрам кнігі новыя творы, дарылі аўтографы на сваіх творах, якія дзеці набывалі ў кніжнай краме.**

**Віктарына, якую правялі для ўдзельнікаў свята, паказала, што школьнікі ведаюць і любяць беларускую літаратуру.**

**НА ЗДЫМКАХ: у кніжнай краме можна было купіць любімую кнігу; аўтографы дае Ніл ГІЛЕВІЧ.**

**Фота Яўгена КАЗЮЛІ.**

ВЕСТКІ З БЕЛАРУСІ ВЕСТКІ З БЕЛАРУСІ ВЕСТКІ З БЕЛАРУСІ

ПАМЯЦЬ

## МІТЫНГ У ХАТЫНІ

"55 гадоў таму гітлераўскімі варварамі было ўчынена найвялікшае злачынства стагоддзя — спалена цудоўная беларуская вёска Хатынь". Такімі словамі 23 сакавіка Прэзідэнт краіны Аляксандр Лукашэнка адкрыў у мемарыяльным комплексе "Хатынь" мітынг, прымеркаваны да гэтай трагічнай даты.

Кіраўнік дзяржавы ўсклаў вянок да мемарыяла "Хатынь". Кветкі і вянкі былі ўскладзены таксама ад Нацыянальнага сходу Беларусі, Савета Міністраў, Міністэрства абароны, іншых органаў дзяржаўнага кіравання. Прысутныя ўшанавалі памяць загінуўшых хвілінай маўчання, а салдаты роты ганаровай варты зрабілі ружэйны салют.

НА ЗДЫМКУ: вянкі і кветкі ахвярам Хатыні.



СУСТРЭЧА МІНІСТРАЎ

## ВЫЗНАЧАНЫ ПУНКТ ПЕРАСЯЧЭННЯ ГРАНІЦ

У Вільнюсе міністры замежных спраў Беларусі, Літвы і Латвіі па даручэнні сваіх урадаў падпісалі Пагадненне аб парадку абазначэння пункта перасячэння дзяржаўных граніц. Гэтым пагадненнем, як заявіў на брыфінгу для журналістаў міністр замежных спраў Літвы Альгірдас Саўдаргас, падводзіцца вынік вялікай і карпатлівай работы трох суседніх краін па ўстанаўленню, дэлімітацыі і дэмаркацыі мяжы. Міністр замежных спраў Беларусі Іван Антановіч падкрэсліў уклад яго краіны ў гэтую справу і расказаў журналістам, што з беларускага боку робіцца для завяршэння дэмаркацыі граніцы і прывядзення яе ў належны парадак.

80-я ГАДАВІНА АБВЯШЧЭННЯ БНР



22 сакавіка ў Мінску прайшлі санкцыяніраваныя мясцовымі ўладамі святочныя мерапрыемствы з нагоды 80-х угодкаў абвяшчэння незалежнасці Беларускай Народнай Рэспублікі. У шэсці па цэнтральным праспекце сталіцы і мітынгу ўдзельнічалі каля 10 тысяч мінчан і жыхароў многіх іншых беларускіх гарадоў. Калона ішла пад лозунгам "БНР — наша будучыня ў XXI стагоддзі" са шматлікімі бел-чырвона-белымі сцягамі, транспарантамі. Суправаджаў яе духавы аркестр, які іграў нацыянальныя гімны. Эмблемай свята быў абраны папяровы бусел.

Мітынг і шэсце прайшлі спакойна. Аднак, калі яго ўдзельнікі пачалі разыходзіцца, некаторыя групы, пераважна моладзь, у святочным настроі дазволілі сабе нейкія вольнасці, у прыватнасці прайсці па тратуары, узяўшыся за рукі і выкрыкваючы: "Жыве Беларусь!" Як паведамляе газета "Звязда", былі нават адзначаны выпадкі процістаяння з міліцэйскімі кардонамі. Органы міліцыі расцанілі гэтыя падзеі як несанкцыяніраванае шэсце і затрымалі некалькі дзесяткаў чалавек, пераважна іншагароднюю моладзь. Яны былі дастаўлены ў раённыя аддзелы ўнутраных спраў, дзе некаторых пасля высвятлення асобы выпусцілі, у тым ліку траіх журналістаў і пяцярыхназіральнікаў Беларускага Хельсінкскага камітэта. Частка ж затрыманых за кратамі ноч з 22 на 23 сакавіка чакала судовага разбору.

ДЫПЛАМАТЫЧНЫ КУР'ЕР

## ПРАДСТАЎНІК БЕЛАРУСІ ПРЫ НАТО

Надзвычайны і Паўнамоцны Пасол Рэспублікі Беларусь у Каралеўстве Бельгія Уладзімір Лабуноў назначаны пастаянным прадстаўніком Рэспублікі Беларусь пры Арганізацыі Паўночнаатлантычнага дагавора. Новыя абавязкі ён будзе выконваць па сумяшчальніцтву з абавязкамі пасла.

Указ аб гэтым назначэнні падпісаны Прэзідэнтам Рэспублікі Беларусь 23 сакавіка 1998 года.

СПРАВА ШАРАМЕТА

## ПРЫГАВОР ПАКІНУТЫ БЕЗ ЗМЕН

Судовая калегія па крымінальных справах Гродзенскага абласнога суда разгледзела 24 сакавіка касацыйныя скаргі на прыгавор Ашмянскага раённага суда ў адносінах супрацоўнікаў Грамадскага расійскага тэлебачання Паўла Шарамета і Дзмітрыя Завадскага.

Пасля двухгадзіннага разбіральніцтва і нарады суддзяў было аб'яўлена, што прыгавор Ашмянскага раённага суда пакінуты без змянення, а касацыйныя скаргі — без задавальнення. Напомнім, што 28 студзеня гэтага года Ашмянскі раённы суд назначыў Паўлу Шарамету пакаранне ў выглядзе двух год пазбаўлення волі ўмоўна, а Дзмітрыю Завадскаму — паўтара года ўмоўна з выпрабавальным тэрмінам 1 год кожнаму.

*"Давайце не будзем хітрыць і прызнаемся сабе і іншым, што ў нашай краіне ўжо амаль няма дзяржаўнага двухмоўя. Па-сапраўднаму дзяржаўная мова ў нас практычна адна — на ёй гаворыць Прэзідэнт, на ёй ідуць пасяджэнні Нацыянальнага сходу, на ёй вядуцца судовыя працэсы, на ёй выдаецца большасць афіцыйных газет. Найбольш здагадлівыя і кан'юнктурныя палітычныя дзеячы добра ўлавілі настрой вярхоўных уладаў — і членскія дакументы БПСМ, напрыклад, афармляюцца ўжо толькі на адной мове, рускай, — эканомія сродкаў, сведчанне сапраўднага інтэрнацыяналізму і амаль гарантаваны льготны пропуск у новы Савецкі Саюз. Забыліся нават і пра мудрага бацьку ўсіх часоў і народаў Іосіфа Вісарыёнавіча Сталіна, які з характэрнай для яго дакладнасцю і лаканічнасцю адначыў заявіў: "...Існуе беларуская нацыя, у якой ёсць свая мова, якая адрозніваецца ад рускай, у выніку чаго ўзняць культуру беларускага народа можна толькі на роднай мове"*

*Генадзь БУРАЎКІН, старшыня Таварыства беларускай мовы імя Ф. Скарыны.*

ПЛЁН НАВУКОВАЙ ДУМКІ



Навукова-тэхнічны сектар Міністэрства прамысловасці Рэспублікі Беларусь прадстаўляюць 48 навукова-даследчых інстытутаў і канструктарскіх бюро, у якіх працуе 16 тысяч чалавек. Многія з іх прымаюць удзел у сумесных праграмах СНД. Летась вучонымі гэтых структур створана больш за 900 распрацовак складаных тэхнічных вырабаў, што дазволіла міністэрству павысіць аб'ёмы экспартнай прадукцыі на 124,2 працэнта.

НА ЗДЫМКУ: новая прадукцыя вытворчага аб'яднання "Віцязь".

КОНКУРС ФІЛЬМАЎ

## ДАСТОЙНЫ "СВЯТОЙ ГАННЫ"

Мультыплікацыйны фільм "Белы клык" маладога беларускага рэжысёра Марыны Карпавай атрымаў вышэйшую ўзнагароду адкрытага конкурсу студэнцкіх фільмаў "Святая Ганна" ў намінацыі "Анімацыя".

У гэтым конкурсе, які ўжо пяты раз праходзіў у Маскве, прынялі ўдзел прадстаўнікі 14 кінашкол краін СНД і Балтыі. Усяго на суд журы на чале з вядомым рэжысёрам Андрэем Канчалоўскім было прадстаўлена 156 стужак розных відаў і жанраў.

ЗДАРЭННІ

## ВАЎКІ ЗАГНАЛІ ЛЕСНІКА НА САСНУ

Ледзь не стаў ахвярай воўчай зграі 45-гадовы ляснік са Шчучынскага раёна. Выратавацца яму ўдалося толькі дзякуючы таму, што не разгубіўся і залез на сасну, на якой праседзеў каля дзвюх гадзін. Увесь гэты час ваўчыца і пяцёра ваўчанят чакалі яго пад дрэвам. А спудзіла зграю група аднавяскоўцаў лесніка, якая выпадкова праязджала міма. Яны, як паведаміла гродзенская газета "Біржа інфармацый", і вызвалілі лесніка з палону.

ЛАЎРЭАТ ФЕСТЫВАЛЮ



З дыпломам 1-й ступені і званнем лаўрэата VII Міжнароднага фестывалю "Адкрыццё" вярнулася дамоў салістка Магілёўскай абласной філармоніі Іскуі АБАЛЯН. У конкурсе маладых выканаўцаў эстраднай песні, які праходзіў у рамках фестывалю ў балгарскім горадзе Варна, яна выканала на англійскай мове вядомы калядны гімн "Ціхая ноч".

САДОЎНІЦТВА І ГАДАВАЛЬНІЦТВА



У 1997 годзе была распрацавана і адобрана ўрадам "Рэспубліканская праграма развіцця пладаводства на 1997—2000 гады". Для яе рэалізацыі ўжо ў студзені гэтага года была створана Беларуская асацыяцыя па садоўніцтву і гадавальніцтву "Белсадгадавальнік". Па ініцыятыве асацыяцыі на базе рэспубліканскага вучэбнага цэнтра Мінсельгаспрада і БелНДІ пладаводства праведзена вучоба аграномаў-садаводаў і гадавальнікаводаў гаспадарак, дзе садоўніцтва пастаўлена на вытворчую аснову. Задачай асацыяцыі таксама з'яўляецца інвентарызацыя шматгадовых насаджэнняў.

НА ЗДЫМКУ: намеснік дырэктара БелНДІ пладаводства Надзея КАПІЧНІКАВА расказвае ўдзельнікам семінара аб асаблівасцях абрэзкі інтэнсіўных садоў і правядзенні ўліку насаджэнняў.

ВЫСТАВЫ

## КНІГА-97

У Нацыянальнай бібліятэцы Беларусі адкрылася выстава кніжных выданняў краіны 1997 года. Як паведаміў намеснік старшыні Дзяржаўнага камітэта рэспублікі па друку Станіслаў Нічыпаровіч, за мінулы год у рэспубліцы выдадзена 682 кнігі на беларускай, 4 375 — на рускай і 274 — на замежных мовах агульным тыражом 67,6 мільёна экземпляраў, што значна перавышае паказчыкі 1996 года. Паранейшаму, як адзначыў С. Нічыпаровіч, малым тыражом — ад 500 да 5 000 — выходзяць кнігі на беларускай мове.

# МЕДЫЦЫНА ДЛЯ НАС

(Заканчэнне.
Пачатак на 1-й стар.).

адной краіне СНД, замежныя аналагі вельмі дарагія. Сёння 15 такіх інкубатараў эксплуатуюцца ў Мінску і Магілёве, яшчэ 10 закупляецца лячэбнымі ўстановамі рэспублікі. Прыёмка інкубатара Белстандартам адбываецца ва ўмовах самага жорсткага кантролю. Інкубатарамі ўжо зацікавілася венгерская фірма "Медыкор" і прапанавала супрацоўніцтва ў развіцці цэлага напрамку на заводзе "Эвістар".

Шэраг прадпрыемстваў пачаў распрацоўваць новую медыцынскую прадукцыю ў рамках канверсіі. Найбольш значныя работы ў гэтым напрамку вядуцца навукова-інжынерным цэнтрам "Лазеры ў экалогіі, медыцыне і тэхналогіі", які быў заснаваны ў чэрвені 1992 года ў выніку рэарганізацыі аднаго з падраздзяленняў беларускага оптыка-механічнага аб'яднання (БелОМА).

Сёння ў навукова-інжынерным цэнтры "ЛЭМТ" працуе 230 чалавек, ёсць сваё канструктарскае бюро і серыйная вытворчасць. Сярод распрацовак "ЛЭМТ" нямала вырабаў медыцынскага профілю, якія пастаўляюцца ў медустановы Беларусі, а таксам праходзяць выпрабаванні і закупляюцца Расіяй, Украінай, Швецыяй, Чэхіяй, Германіяй. На сёння ў клінічнай практыцы выкарыстоўваецца прыбор лазернай акупунктуры, лазерная тэрапеўтычная ўстаноўка, комплекс экстракарпаральнай дэтаксікацыі. Тут завершаны клінічныя выпрабаванні лазернага афтальмаперфаратара, лазернага літатрыптара, двуххвалевай хірургічнай установкі. Праходзяць клінічныя выпрабаванні апарат лазернай ангіапластыкі, апарат для фотадынамічнай тэрапіі, апарат электра- і фонафарэза. На выставе "Беларусь—Медыка-98" была прадстаўлена лазерная хірургічная ўстаноўка для кантактнага спосабу рассячэння тканак практычна на любую глыбіню.

Паколькі гэтая тэхніка унікальная, вялікімі партыямі яе вырабляць пакуль немагчыма, і таму продаж ажыццяўляецца асобнымі экземплярамі. Аднак у гэтым годзе ўжо намечаны шэраг паставак за межы Рэспублікі Беларусь для найбольш зацікаўленых арганізацый. Яшчэ захавалася структура Медтэхнікі Расіі, аднак яна працуе дэцэнтралізавана, і таму даводзіцца супрацоўнічаць асобна з кожным рэгіёнам, што звязана з праблемамі неплацяжоў і даўгоў.

Найбольш цікавымі з прадстаўленых на выставе экспанатаў з'яўляюцца распрацоўкі ЗАО "ІТЭК", якое змагло прыцягнуць італьянскія тэхналогіі для вытворчасці высакакласных электракардыёграфаў і апаратаў ультрагукавых даследаванняў, недахоп якіх сёння вельмі востра адчуваецца ў Беларусі. Цікава, што ў выніку гэтага супрацоўніцтва атрымалася такая якасная апаратура, што ў Беларусі не аказалася стандартаў для яе праверкі, і для правядзення выпрабаванняў давялося выязджаць у Еўропу.

Вельмі сур'ёзнай сёння з'яўляецца ажыццяўляемая гэтым жа прадпрыемствам праграма аднаўлення стаматалагічных установак, якая дазваляе значна скараціць затраты на набыццё новага абсталявання. У свой час Валгаградскім заводам медабсталявання выпускаліся ўстаноўкі УЗ-30, якімі былі паўсюдна аснашчаны стаматалагічныя кабінеты рэспублікі. Практычна ўсе бормашыны ўжо выпрацавалі свой рэсурс, а на замену парка стаматалагічнага абсталявання па ўсёй краіне сёння патрэбны занадта вялікія затраты. Распрацаваная праграма аднаўлення дазваляе аснасціць установкі сучаснымі турбінамі ўзамен старых электраматораў, што дазволіць з адносна невялікімі затратамі "рэаніміраваць" такое неабходнае абсталяванне.

Да нядаўняга часу стаматалагічны інструментарый увозіўся ў Беларусь з Татарстана, сёння ж НПП "Струм" практычна поўнасцю задаволіла патрэбы Беларусі ў стаматалагічным інструментарыі і прадае яго не толькі ў СНД, але нават у Паўднёвую Амерыку. Высокая якасць і нізкая цана робяць прадукцыю беларускага прадпрыемства канкурэнтаздольнай.

Некаторыя з прадстаўленых на выставе распрацовак карыстаюцца павышаным попытам. Так, прадукцыя беларуска-дацкага прадпрыемства "Бел-Кеа-Пласт" мае міжнародны стандарт якасці, як і капілярныя дыялізатары, што выпускаюцца СП "Фрэбар" (г. Барысаў). Зараз існуе праграма забеспячэння дыялізных цэнтраў, згодна з якой закупляецца адпаведная апаратура зарубежных фірм, а вось расходныя матэрыялы да гэтых сістэм выпускаюцца на прадпрыемствах Беларусі, што дазваляе эканоміць сур'ёзныя сродкі ў валюце і гасіць затраты на набыццё той медтэхнікі, вырабіць якую сваімі сіламі беларускія прадпрыемствы не ў стане з-за адсутнасці тэхналогій і ноў-хаў.

Дарэчы, зусім магчыма, што неўзабаве ў Беларусі з'явіцца ўласная унікальная медтэхніка: цяпер у Політэхнічнай акадэміі ствараецца лазер з вельмі кароткім ходам промня. Распрацоўка ўжо абаронена аўтарскім пасведчаннем, і на яе падставе магчымае стварэнне медыцынскага прыбора з унікальнымі характарыстыкамі. Многія з заходніх фірм, прадстаўленых на выставе, прывезлі сюды ўжо даўно вядомую ў Беларусі прадукцыю, і часта стэнды славутых кампаній сустракалі наведвальнікаў вітрынамі з добра вядомымі лякарствамі. І справа не ў тым, што на Захадзе няма новых распрацовак медтэхнікі, зарубежных вытворцаў стрымлівае адсутнасць у Беларусі крэдытаў на закупку імпартных прэпаратаў і апаратуры. Такая сітуацыя выклікае пэўныя складанасці, бо далёка не ўсю неабходную медыцынскую апаратуру сёння можна вырабляць у краіне. Па словах кіраўніка Беларускага рэспубліканскага спецыялізаванага вытворча-гандлёвага прадпрыемства "Белмедтэхніка" Уладзіміра Якубовіча, "мы, несумненна, будзем вымушаны купляць на Захадзе унікальную медыцынскую тэхніку. Ёсць апаратура, вырабляць якую тут нерэальна і нерэнтабельна. Мы вымушаны закупляць за мяжой камп'ютэрныя тамографы і рэнтгентэхніку, хаця апошнім часам у рэспубліцы ўжо пачынаецца асваенне апаратаў для дэнтальнай рэнтгенаскапіі, былі праекты стварэння канцэрнам "Планар" стацыянарных і перасоўных рэнтгенаўскіх апаратаў, але з-за адсутнасці крэдытавання яны прыпынены. Я лічу, што сёння трэба асвойваць вытворчасць той прадукцыі, якую мы вымушаны закупляць за валюту за межамі рэспублікі, але ў той жа час пры пэўным намаганні можам выпускаць самі, тым больш, што сёння тут ёсць патэнцыял для стварэння асноўных відаў медыцынскай тэхнікі, якая магла б закрыць многія існуючыя патрэбнасці".

Дарэчы, у бліжэйшы час беларускія вытворцы медтэхнікі змогуць давядацца пра ацэнку сваёй работы збоку: з 26 па 31 мая ў Маскве адбудзецца выстава "Медыцына для вас", у якой прымуць удзел многія айчынныя фірмы. Летась "Белмедтэхніка" на такой выставе атрымала дыплом за прадстаўленую беларускую тэхніку. Ацэнкі зроблена за мінулы год чакаць засталося нядоўга.

**Вераніка ЧАРКАСАВА.**

## ДАБРАЧЫННАСЦЬ



**У дзіцячым рэабілітацыйна-аздараўленчым цэнтры "Ждановічы" адбылася цырымонія перадачы гуманітарнага грузу, прадастаўленага ўрадам Кітайскай Народнай Рэспублікі. У гэты ж дзень расходныя медыцынскія матэрыялы, шпрыцы і аднаразовыя сістэмы для ўнутрывенных уліванняў на агульную суму каля 250 тысяч долараў ЗША былі размеркаваны паміж медыцынскімі ўстановамі рэспублікі, дзе лечацца тыя, хто пацярпеў ад чарнобыльскай катастрофы.**

**НА ЗДЫМКУ: даверанасць на атрыманне гуманітарнага грузу з Кітая атрымлівае галоўны ўрач Віцебскай абласной бальніцы Пётр ЛЯРСКІ.**

**Фота Віктара ТАЛОЧКІ.**

# ПЕРШ ЧЫМ ХВАРОБУ ЛЯЧЫЦЬ, ТРЭБА ЯЕ ВЫВУЧЫЦЬ

(Заканчэнне.
Пачатак на 1-й стар.).

У такім жа стане і сярэдняя працягласць жыцця. Яна знізілася ў мужчын з 68 гадоў у 1970 годзе да 63-х у 1996-м. У жанчын з 76 да 74 гадоў. Насцярожвае занадта высокая дыферэнцыяцыя паказчыка смяротнасці па полу, паміж горадам і вёскай.

Сярод прычын смяротнасці па-ранейшаму лідзіруюць хваробы кровазвароту, новаўтварэнні, няшчасныя выпадкі, атручванні і траўмы.

Вельмі непакоіць і распаўсюджванне алкаголізму, СНІДу і наркаманіі, асабліва сярод моладзі. Мы маем самыя новыя даныя ў гэтай сферы. Яны гавораць, напрыклад, аб тым, што за апошнія 10 гадоў колькасць злачынстваў на глебе наркотыкаў узрасла больш, чым у 10 разоў, а аб'ём канфіскаваных наркатычных сродкаў — у 41 раз.

Тэрыторыя Беларусі з-за свайго геаграфічнага становішча ўсё часцей выкарыстоўваецца для транзіту і транспарціроўкі наркотыкаў. Выконваючы міжнародныя дамоўленасці і абавязацельствы, наша краіна робіць усё магчымае для спынення гэтага злачыннага віду дзейнасці. Так, летась былі спынены 33 спробы кантрабанднага ўвозу і вывазу наркатычных сродкаў агульнай вагой 97,3 кілаграма. Характэрна, што патокі руху наркотыкаў становяцца паралельнымі: на захад пераправляюць наркотыкі, створаныя на базе сыравіны раслліннага паходжання — опій, герайн, марыхуана, а гашыш, а на ўсход — сінтэтычныя наркатычныя сродкі.

Як сведчаць атрыманыя даныя, больш за 100 тысяч іншаземцаў знаходзяцца на тэрыторыі краіны незаконна. У асноўным гэта выхадцы з краін Азіі, дзе існуе арганізаваная форма наркабізнесу, кіраўнікі якога і выкарыстоўваюць названых вышэй асоб для сваіх мэт.

Практыка паказвае: сёння асноўным відам наркотыку для Беларусі застаецца опіум, экстрагіраваны з макавай саломкі. Аднак яго доля пастаянна змяншаецца. У 1997 годзе ў злачынцаў канфіскавана макавай саломкі ў 1,2 раза больш, чым у 1996-м. А гатовых форм наркотыку ў 2,3 раза.

Наркаманія набывае такія памеры, што самым непасрэдным чынам уплывае на здароўе нацыі. У яе ўцягваюцца ў асноўным маладыя. Сярэдні ўзрост спажыўцоў наркотыкаў у Беларусі — 25 гадоў. Асноўны спосаб ужывання — ін'екцыйны, які прывёў да росту ВІЧ-інфекцыі. На сённяшні дзень у краіне выяўлена каля 1 800 ВІЧ-інфіцыраваных, 87 працэнтаў заражаных СНІДам у Беларусі — шпрыцавыя наркаманы.

Дарэчы, становішча са СНІДам на працягу дзевяці гадоў (1987—1995 гады) у нас было адносна спакойным: за ўвесь перыяд зарэгістравана 113 выпадкаў ВІЧ-інфіцыравання, а ў Гродзенскай вобласці ўвогуле ніводнага. Але з ліпеня 1996 года эпідэміялагічная сітуацыя па гэтаму захворванню рэзка ўскладнілася — пачалося інтэнсіўнае распаўсюджванне ВІЧ-інфекцыі ў Светлагорску, дзе за кароткі час інфіцыраваны адзін працэнт усяго насельніцтва горада.

Цяпер працэс ВІЧ-інфіцыравання ахапіў 54 адміністрацыйныя тэрыторыі Беларусі, адзначана актывізацыя ў Мінску. За мінулы год у краіне зарэгістравана 653 падобныя выпадкі, 369 — у Светлагорску і Светлагорскім раёне. Сумна, але зніжаецца ўзрост інфіцыраваных людзей: вельмі многім з іх (22,1 працэнта) ад 15 да 19 гадоў, ды і другой значнай групе (44,6 працэнта) нямногім больш — 20—24 гады. А прычына часцей за ўсё адна — брудныя шпрыцы пры ўвядзенні наркотыкаў, хаця ў краіне ўжо вядомыя і іншыя сродкі перадачы ВІЧ-інфіцыравання: дзеці, якія нарадзіліся ад ВІЧ-інфіцыраваных маці, пераліванне заражанай крыві (у асноўным гэтая катэгорыя інфіцыраваных трапляе да нас з Расіі), парантаральны шлях перадачы ВІЧ-інфекцыі сярод тых, хто ўжывае наркотыкі.

У 1997 годзе былі праведзены мерапрыемствы, накіраваныя на стрымліванне тэмпаў распаўсюджвання ВІЧ-інфекцыі. У лячэбна-прафілактычных установах краіны незалежна ад ведамаснай падпарадкаванасці, створаны ўсе ўмовы для аказання ВІЧ-інфіцыраваным і хворым на СНІД усіх відаў меддапамогі. ВІЧ-інфіцыраваныя атрымліваюць меддапамогу стацыянарна і амбулаторна па профілю клінічных праяўленняў у тэрытарыяльных і ведамасных лячэбна-прафілактычных установах.

У Беларусі памерла 24 ВІЧ-інфіцыраваных. З іх з дыягназам СНІД — 11.

Урадам краіны зацверджана дзяржаўная праграма "Прафілактыка ВІЧ-інфекцыі да 2000 года". Да яе ажыццяўлення ўжо прыступілі. Расшырана міжведамаснае супрацоўніцтва па прафілактыцы ВІЧ-інфекцыі. У 1997 годзе намецілася больш цеснае супрацоўніцтва па праблеме ВІЧ—СНІД з міжнароднымі арганізацыямі. У Светлагорску, напрыклад, укаранёны сумесныя практпраграмы ААН па СНІДу. Аналагічныя праекты распрацаваны для Магілёва, Мінска і Бабруйска.

Бязрадасную карціну ўяўляе сабой і стан захворвання на венерычныя і заразныя скурныя хваробы. Толькі сіфілісам з 1988 па 1996 год вырас у 152 разы! Сёння такіх хворых — 21 616 чалавек.

Аднак павінен сказаць, што ў 1997 годзе пачалося зніжэнне захворвання на сіфіліс, у Мінску нават на 30 працэнтаў. Думаецца, гэта звязана яшчэ і з тым, што даная хвароба мае цыклічны характар распаўсюджвання, уздыму і спаду. Але, на жаль, працягваецца рост у Гродзенскай, Мінскай і Магілёўскай абласцях, застаецца вельмі высокім узровень захворвання ў Гомельскай вобласці. І венерычныя хваробы таксама "маладзеюць": хворым — 15—19, 20—29 гадоў. Адзначу, што ў першай групе сярод захварэўшых большасць жанчын.

У краіне рэгіструецца прыроджаны, бытавы сіфіліс, палавое заражэнне дзяцей ва ўзросце ад 7 да 14 гадоў. Адзначаны нават выпадкі групавога заражэння сіфілісам у дзяцей — у Чэрвенскім раёне Мінскай вобласці.

Факты, што я згадаў, — частка вялікага даклада, які падрыхтаваў наш цэнтр да ведама кіраўніцтва краіны. Сабраны матэрыял не толькі вялікі, але і строга даклады. Мы спадзяемся, што працавалі недарма: перш чым хваробу, у тым ліку і сацыяльную, лячыць, трэба яе вывучыць, і вынікі нашых намаганняў дазволяць прыняць найбольш адэкватныя і эфектыўныя меры ў барацьбе з тым сацыяльным злом, якое яшчэ раз'ядае грамадства.

**Галіна УЛІЦЁНАК.**

У БЕЛАРУСКІМ ТАВАРЫСТВЕ ДРУЖБЫ

# ПАРОДНЕНЫЯ ГАРАДЫ

Парадненне гарадоў — гэта рух з паўвекавымі традыцыямі. Яшчэ ў гады другой сусветнай вайны два гарады — англійскі Ковентры і савецкі Сталінград, якія асабліва пацярпелі ад яе навалы, прынялі рашэнне наладзіць дружалюбныя сувязі дзеля супрацоўніцтва ў інтарэсах сваіх грамадзян.

Высакародныя мэты атрымалі шырокую падтрымку, садзейнічалі развіццю грамадзянскай ініцыятывы ў розных краінах свету. З гадамі гэты рух стаў важнай формай збліжэння народаў, паляпшэння ўзаемапаразумення і ўмацавання супрацоўніцтва паміж гарадамі ва ўсім свеце.

Беларуская асацыяцыя пародненых гарадоў як самастойная грамадская арганізацыя існуе з 1995 года. У статуце адзначана, што яна з'яўляецца незалежным у выкананні сваіх мэтаў аб'яднаннем, арганізоўвае сваю работу на прынцыпах самакіравання. Асноўная мэта БАПГ — наладжванне і развіццё міжнародных сувязей гарадоў, раёнаў, абласцей Беларусі з гарадамі і іншымі тэрытарыяльна-адміністрацыйнымі адзінкамі розных краін, абмен вопытам гарадскога самакіравання, камунальнай гаспадаркі, пашырэнне ўдзелу грамадзян у мясцовым самакіраванні.

БАПГ налічвае ў сваім складзе 27 гарадоў, якія звязаны пабрацімскімі сувязямі з 76 краінамі розных краін свету.

Напрыклад, горад Мінск мае 10 гарадоў-пабрацімаў: Нотынгем (Вялікабрытанія), Сэндай (Японія), Бангалор (Індыя), Ліён (Францыя), Луанда (Ангола), Мерыда (Мексіка), Дэтройт (ЗША), Чанчунь (Кітай), Лодзь (Польшча), Эйндхавен (Галандыя). У горада Брэста іх 7: Равенсбург/Вайнгартэн (Германія), Сінт-Ніклас (Бельгія), Бяла-Падляска (Польшча), Сяо-Гань (Кітай), Дуўр (Вялікабрытанія), Брэст (Францыя), Плевен (Балгарыя).

Невялікі наш Кобрын пароднены з 3 гарадамі: Ульцэн (Германія), Гларус (Швейцарыя), Канеў (Украіна).

Толькі ў 1997 годзе былі падпісаны пагадненні аб парадненні з 13-цю гарадамі розных краін свету: Балгарыі, Італіі, Кітая, Манголіі, Расіі.

Шмат увагі міжнародным сувязям удзяляюць у Рэчыцы (старшыня гарвыканкома М. Заразака). Горад наладзіў партнёрскія адносіны з гарадамі Клапенбург (Германія), Феадосія (Украіна), Чадыр-Лунга (Малдова). Выніковым быў мінулы год і для Гомеля. Горад падпісаў пабрацімскія пагадненні з Хуайінем (Кітай), Бургасам (Балгарыя), Фікарацы (Італія), з Селенгінскім аймакам Манголіі. А Вілейка (старшыня — П. Юдо) парадніласа з расійскім горадам Можайскам і ўкраінскім Пераяслаўль-Хмяльніцкім.

З гарадамі Балгарыі параднілісь Брэст і Салігорск (Плевен і Слівен), Польшчы — Наваполацк і Навагрудак (Плоцк і Эльблонг).

За мінулы год гарадамі Беларусі падпісаны звыш 90 пагадненняў аб супрацоўніцтве ў розных сферах жыцця. Напрыклад, Мінскам падпісаны пагадненні з Масквой, Севастопалем, Кіевам, Казанню. У Гомеля такія пагадненні падпісаны з Феадосіяй (Украіна), Унечай (Расія), Свябодзіца (Польшча), Чэске-Будзеёвіцы (Чэхія), у Вілейкі — з Етрапале (Балгарыя), у Оршы — з Бандэна (Італія), Бельцамі (Малдова), Вязьмай (Расія), у Віцебска — з Тулонам (Францыя), Рэзэкнэ (Латвія), у Светлагорска з Табар (Чэхія).

Акрамя таго, зроблена шмат напрацовак для наладжвання ўзаемакарысных сувязей. Так, у Брэста гэта гарады Польшчы (Люблін, Тэрэспаль), у Бабруйска — Балгарыі (Сяўліева) і Украіны (Днепрапятроўск), у Віцебска — Даўгаўпілс (Латвія), Тулон (Францыя), Хаскава (Балгарыя), Кастрама (Расія), у Баранавіч — Ферара (Італія), у Нясвіжа — Чэскі-Крумлаў, у Магілёва — Брно (Чэхія) і г. д.

Партнёрскія сувязі гарадоў развіваюцца па-рознаму: у адных яны плённыя і выніковыя, у іншых — не вельмі.

Так, актыўна супрацоўнічаюць гарады-пабрацімы беларускі Полацк і нямецкі Фрыдрыхсхафен. Кіраўніцтва гарадоў-партнёраў вызначаецца добрым веданнем гарадской гаспадаркі, сістэмы самакіравання, фінансавага становішча адзін аднаго. Гэтаму спрыяюць пастаянныя кансультацыі, інфармацыйны абмен. Вялікае значэнне ў праграме супрацоўніцтва надаецца народнай дыпламатыі: штогод адбываецца сямейны і дэлегацыйны абмен паміж жыхарамі Полацка і Фрыдрыхсхафена. Не апошняе месца ў павышэнні эфектыўнасці сувязей займаюць асабістыя кантакты кіраўніцтва. Усё гэта дае магчымасць прыдаць супрацоўніцтву праграмны характар. Плануюцца стажыроўкі спецыялістаў, студэнтаў, абмен дэлегацыямі, гуманітарныя акцыі. Галоснасць і ўдзел шырокага кола грамадскасці ў супрацоўніцтве забяспечваюць здаровы псіхалагічны настрой вакол гэтага руху.

Станоўча можна ацаніць пароднения сувязі з замежнымі гарадамі і ў Гомеля. Яны накіраваны, у першую чаргу, на вырашэнне ўнутрыгарадскіх праблем. Стажыроўкі гомельскіх медыкаў праходзяць у клініках і медцэнтрах Еўропы, перш за ўсё ў гарадах-пабрацімах. Горад Абердзін неаднойчы перадаваў Гомелю неабходную медтэхніку, медыкаменты. На аснове ўзаемавыгаднага супрацоўніцтва з Клермон-Ферранам створаны Франка-Беларускі інстытут кіравання пры ГДУ імя Ф. Скарыны. 1997 год быў для інстытута знамянальным: адбыўся першы выпуск, студэнтам якога былі ўручаны французскія дыпломы. Рэгулярна праходзяць стажыроўкі студэнтаў абедзвюх краін, спартыўныя спаборніцтвы, фестывалі, аздараўленне дзяцей. Распрацаваны сумесны беларуска-шатландскі праект па абароне навакольнага асяроддзя, які заяўлены мэрыяй г. Абердзіна ў фонд брытанскага ўрада "ноў-хаў" на фінансаванне. Ён прадугледжвае закупку прыбораў для кантролю за станам навакольнага асяроддзя Гомеля і вобласці.

Далёка за рамкі культурнага і гуманітарнага супрацоўніцтва перайшлі адносіны з замежнымі партнёрамі ў горада Віцебска. Пры садзейнічанні г. Франкфурта-на-Одэры Віцебск атрымаў у 1995 годзе грант у праграме "Тасіс—пародненыя гарады". Зараз горад-пабрацім выдзяляе значныя матэрыяльныя сродкі для аздараўленчых цэнтраў Віцебшчыны.

Супрацоўніцтва з другім горадам Германіі — Нінбургам — таксама развіваецца задавальняюча. Гэты горад аказвае Віцебску значную гуманітарную дапамогу (за апошнія 2 гады яе атрымана на 200 тысяч дойчмарак), падтрымлівае развіццё культуры, развівае турыстычны абмен.

Аднак сувязі пародненых гарадоў бываюць і менш плённымі, менш актыўнымі.

Не складваюцца на сённяшні дзень адносіны ў Салігорска і бельгійскага горада Ла-Лувьер, у Жодзіна і французскага горада Венісье, у Наваполацка і нямецкага горада Швета, у Бараўлян і італьянскага горад Апіньяна.

Праўленнем БАПГ праведзена аналітычная работа па вывучэнню попыту гарадоў усіх абласцей Беларусі на парадненне з замежнымі. Высветлілася, што гэта форма міжнароднага супрацоўніцтва цікавіць многіх.

У праўленне БАПГ паступіла 460 запытаў ад беларускіх гарадоў на парадненне з гарадамі 22-х краін свету. Амаль кожны горад раённага ўзроўню хацеў бы мець замежнага партнёра.

Найбольшая колькасць запытаў паступіла на гарады Расіі (34), Балгарыі (24), Украіны (21), Германіі (12), Італіі (8), Чэхіі (6), Польшчы (10). Гэта сведчыць пра тое, што беларускія гарады хацелі б наладзіць доўгатэрміновыя, узаемакарысныя эканамічныя, дзелавыя і культурныя сувязі, у першую чаргу, з суседзямі — сваімі традыцыйнымі партнёрамі.

На другім месцы ў попыце — Германія, Італія, Чэхія — гэта тыя краіны, з якімі нас звязваюць гуманітарныя ці эканамічныя праграмы.

Усе астатнія краіны менш пазнаны нашымі малымі гарадамі, таму і попыт на іх меншы, але геаграфія попыту даволі шырокая: Іспанія, Югаславія, Францыя, Ізраіль, Аўстрыя, Кітай, Нарвегія, Венгрыя, Румынія, Данія, Галандыя і г. д.

У планах БАПГ на бліжэйшы час — сустрэчы пародненых гарадоў Беларусі і Германіі і беларускіх і расійскіх гарадоў для абмеркавання праграм супрацоўніцтва.

**Ніна ІВАНОВА,**
**намеснік старшыні БелТД.**

НАМ ПІШУЦЬ

# ГАРТАЮЧЫ СТАРОНКІ ЖЫЦЦЯ

*...Нас маладосць адорвае*
*каханнем,*
*каханне нас вяртае ў маладосць.*
**Раіса БАРАВІКОВА.**

Заўсёды на беларускіх імпрэзах бываюць Надзея Стацько і Пятро Новік. Надзея пры нагодзе танцуе цыганскія танцы, захаваўшы фігуру, прыгожыя рукі. Ён з замілаваннем назірае. Двое — ужо даўно немаладыя. Лёс злучыў іх нядаўна. Упершыню спаткаліся ў канцы 40-х гадоў у Віленскай беларускай гімназіі.

Надзея Стацько нарадзілася ў Рызе, у беларускай сям'і. Бацька працаваў на чыгунцы, таму часта даводзілася мяняць месца жыхарства. Радзіма і радзімы "клікалі" ў Княгініна, што каля Маладзечна. Там скончыла сем класаў, а далей трэба было самой шукаць дарогу, маючы добрыя пачатковыя веды. Паступіла ў Віленскую беларускую гімназію, правучылася толькі тры гады (1931—1933), не было чым плаціць за вучобу. Прыйшлося шукаць дапамогі ў віленскага ваяводы, і тут аддзел дапамогі паслаў у гімназію, дзе вучылася ўжо за дзяржаўныя грошы, і нават асабіста ёй выдзялялі яшчэ 10 злотых.



Пачалася другая сусветная вайна. Надзея Антонаўна ўжо была замужам, расла маленькая дачушка. Жылі і працавалі каля Вілейкі. У гэты час мужа вывезлі ў Асвенцім, туды ж праз некаторы час трапіла і яна з малым дзіцем. Пачаліся страшныя пакуты. Муж і дачушка загінулі, яна цудам уцалела. Пасля перамогі пачалася доўгая дарога вяртання дамоў. Спачатку прывезлі ў Карпаты, адтуль, дзе пешшу, дзе пад'ездам, дабіралася ў Беларусь. Прапаноўвалі застацца ў Варшаве, у Карпатах, але вельмі цягнула дахаты, там чакала мама.

Паступова час залечваў раны. Паступіла ў Брэсцкі педінстытут, скончыла, прыехала ў Вільню і да выхаду на пенсію выкладала біялогію і хімію ў розных школах горада.

Пётр Новік нарадзіўся ў вёсцы Агароднікі Карэліцкай гміны (зараз у мяжы горада), бацькі ў 1922 годзе вярнуліся з бежанства. Дзед Андрэй Новік меў 2,5 гектара зямлі, бацька пайшоў працаваць шаўцом падмайстра да жыда Аўсея ў Карэлічы. Хаты сваёй не было, пазней бацька з братам пабудавалі дом на двух гаспадароў. З цягам часу бацька займеў майстэрню, працаваў не толькі сам, але і меў вучняў. Працавалі з 8 гадзін раніцы да 10 гадзін вечара. Пятро Новік скончыў 6 класаў польскай школы ў Карэлічах. У 1936 годзе з дапамогай хроснага бацькі Уладзіміра Кіта трапіў у Віленскую беларускую гімназію вучыцца.

У 1937/38 годзе дырэктарам гімназіі стаў Анцукевіч Мікалай — выкладчык лацінскай мовы, суровы настаўнік. Восенню 1936 года гімназія — вучні і настаўнікі прысутнічалі пры пераахаванні маці і сэрца Пілсудскага на могілках Росы ў Вільні. Тады на тым месцы было балота. Гэтая першая падзея, якая зрабіла вельмі вялікае ўражанне на маладыя душы, помніцца да гэтага часу. Пятро Новік правучыўся ў Віленскай беларускай гімназіі з 1936-га да 1939 года, да "вызвалення". Трэба зазначыць, што ён прыехаў добра апрануты, у яго была форма з цёмна-сіняга сукна, у адрозненне ад іншых, у якіх не было ні вопраткі добрай, ні абутку. Разам з Пятром вучыўся і дваюрадны брат Уладзімір Новік (цяпер жыве ў Паўладары). Ды і за навуку плацілі 100 злотых за паўгода, столькі ў той час каштавала добрая карова. Бацька шыў абутак упраўляючаму маёнтка і іншым "вялікім" людзям, браў за пару 40 злотых, таму і была магчымасць вучыць дзяцей. У 1939 годзе тыя, хто быў з Навагрудчыны, пераехалі ў Навагрудак, у беларускую школу, якая месцілася на Замкавай вуліцы.

Пераехаў у Навагрудак і Пятро Новік. Скончыў педвучылішча ў Навагрудку і пачаў настаўнічаць у школах Карэліцкага раёна. Пачалася другая сусветная вайна. Пятро спачатку партызаніў, потым трапіў на фронт, быў кантужаны, ранены, лячыўся ў шпіталі Пскова, атрымаў інваліднасць. Вярнуўся ў Карэлічы, працаваў настаўнікам. У 1951 годзе прыехаў у Вільню, тут скончыў педагагічны інстытут, вучыў дзяцей у Эйшышках, Няменчыне, Вільні, адзін год працаваў у віленскай беларускай школе імя Ф. Скарыны настаўнікам працы. Выраслі дзве дачкі, адна скончыла таксама педінстытут. Зараз Пятро Герасімавіч даўно на заслужаным адпачынку. За сумленную працу мае шмат узнагарод. У вольны час займаецца разьбой па дрэву, выраблае розных птушак, звяркоў значкі. Збірае карэнне дрэў, якое ў руках майстра ператвараецца ў розных казачных герояў.

Надзея Антонаўна з нітак выраблае дзівосныя рэчы, гэта не проста мастацкія вырабы, а ювелірная праца, у экспазіцыі мініяцюрныя кошыкі, зробленыя кручком, кветкі. А якія цудоўныя героі казак: "Ліса на паляванні", "Бабка і каза", "Тройка", "Дзве каровы на пасці", "Коні", "Беларусачкі", вельмі прыгожыя паштоўкі, зробленыя з выкрыстаннем саломкі, прыродных матэрыялаў, выцінанкі, на дзвярах вітражы, на сценах вісяць карціны, краявіды Вільні і ваколіц. Колькі ж трэба вытрымкі, натхнення, каб зрабіць такія цудоўныя, высокамастацкія рэчы. Мастацтвам яны займаюцца разам, раяцца, дапаўняюць адзін аднаго, дапамагаюць веды па анатоміі і біялогіі. У любімую справу ўкладваюць душу. Пабывала ў іх кватэры, быццам на выставе, з такой любоўю і цеплынёй паказвалі і расказвалі пра кожную працу. У 1996 годзе генеральны консул польскай амбасады В. Ліпка-Худзін уручыў Надзеі Стацько медаль "Крыж вязняў палітычнага лагера Асвенціма 1939—1945 г.", з Варшавы прыслалі папасатыя хустку і вопратку як памяць аб тых страшных гадах. Але лёс неяк бярог.

Праз 60 гадоў пасля першых сустрэч лёс злучыў іх разам — Надзею і Пятра. Яны заўсёды і ўсюды разам. Часта бываюць у беларускай школе Вільні, ладзяць выставы сваіх вырабаў, сустракаюцца з вучнямі, дзеляцца ўспамінамі, цікавяцца жыццём школы.

Яму хутка споўніцца 75. У яе ў гэтым годзе таксама юбілей. Яны духоўна багатыя, поўныя аптымізму, жыццярадасныя, шчаслівыя, закаханыя, маладыя душой. Кампенсацыя за перажытае ў маладосці. "Калі вы будзеце пісаць, то напішыце, што ў нас кожны дзень Валянцінкі", — на развітанне сказала Надзея Антонаўна.

**Леакадзія МІЛАШ.**
г. Вільнюс.

**НА ЗДЫМКУ: Надзея СТАЦЬКО і Пятро НОВІК.**

ГЕРОІ ЛУБЯНКІ

# УЗЛЁТ І ПАДЗЕННЕ «ЖАЛЕЗНАГА» НАРКОМА

У гістарычнай памяці народа імя Мікалая Яжова стала хадзячай назвай. "Яжоўшчына" — гэтым паняццем пазначаюць сёння люты рэжым татальнага беззаконня і гвалту. Вядомы і так званыя "яжовыя рукавіцы" — выраз, вельмі распаўсюджаны ў 30-я гады. Захаваліся плакаты тых гадоў: магутныя рукі ў вялізных рукавіцах з жалезнымі цвікамі мёртвай хваткай сціскаюць горла няшчаснага "дахадзягі", што, відаць, увасабляў гідру контррэвалюцыі...

### "ЖАЛЕЗНЫ" НАРКОМ

У апошнія вераснёўскія дні 1936 года ў вялікім доме на Лубянцы панавала паніка. Назначэнне Яжова наркомам унутраных спраў служачыя цэнтральнага апарату НКУС успрынялі як вялікую асабістую трагедыю. Яго бязлітасная жорсткасць, прычым не толькі ў адносінах да нядобразычліўцаў, але і да безумоўна адданых яму людзей, была добра вядомая. Справа да таго ж ускладнялася і тым, што супрацоўнікі, асабіста звязаныя з апальным Ягодам, цяпер самі аказваліся пад падазрэннем.

У першы ж дзень свайго з'яўлення на Лубянцы новы нарком неадкладна змяніў тут усю варту. Сам жа, размясціўшыся ў асобным, левым крыле будынка НКУС, прыняў такія меры перасцярогі, нібыта рыхтаваўся да працяглай асады. Незлічоная колькасць узброеных людзей заняла ўсе блізкія і далёкія подступы да кабінета наркома. Да гэтага кабінета вялі шматлікія пакручастыя пераходы з паверха на паверх. І на кожным пераходзе, кожным павароце, кожнай лесвічнай клетцы зноў і зноў правяралі дакументы, аглядвалі асабістыя рэчы. Рэжым быў узмоцнены да такой ступені, што нават ветэраны ЧК не маглі прыпомніць нічога падобнага. Служачыя наркамата замерлі ў трывожным чаканні.

У сакавіку 1937 года Яжоў на аператыўнай нарадзе аб'явіў аб маючай адбыцца інспекцыі мясцовых органаў НКУС. У розныя куткі краіны адначасова камандзіруюцца амаль усе начальнікі аддзелаў цэнтральнага апарату. Аднак ледзь яны паспелі выехаць за межы Масквы, як былі арыштаваны на блізкіх станцыях. Праз два дні падобная аперацыя была праведзена і ў адносінах да іншых кіруючых супрацоўнікаў наркамата.

З астатнімі і зусім не цырымоніліся. Іх арыштоўвалі ў службовых кабінетах. Але здаралася, прыходзілі і на кватэру. Як правіла, ноччу. Такая аперацыя патрабавала пэўнай падрыхтоўкі, таму планавалася толькі ў асобных, асабліва важных выпадках. І калі аднойчы раніцай супрацоўнік не прыходзіў на работу, а таварышам па службе станавілася вядома пра начную драму, то сітуацыя лічылася зусім безнадзейнай: арыштаваны быў загадзя асуджаны.

Яжоўская чыстка 1937 года забрала жыцці трох тысяч супрацоўнікаў Ягоды ў НКУС. Многія з іх па-сапраўднаму запэмілі сябе незмываемым грахом знішчэння бязвінных. Але расплата за злачынства непазбежна ператвараецца ў сваю процілегласць, калі ажыццяўляецца па-за законам і судом. Менавіта так тут і адбылося. Правасуддзе саступіла месца чарговаму акту самавольства.

На закрытым пасяджэнні XX з'езда КПСС М. Хрушчоў назваў дакладную лічбу: за час свайго знаходжання на пасадзе наркома Яжоў накіраваў на зацвярджэнне Сталіну 383 спісы абвінавачаных. Нескладаны арыфметычны падлік паказвае, што кожны чарговы спіс з'яўляўся на рабочым стале генсека не пазней, чым праз дзень.

Пры Яжове дзейнасць так званых "троек" атрымала новы магутны імпульс. Іх кампетэнцыя была значна пашырана як з пункту гледжання кола спраў, што разглядаліся, так і па характару мер пакарання, якія прымяняліся.

30 ліпеня 1937 года Яжоў падпісаў загад аб правядзенні "масавых аперацый у адносінах да былых кулакоў, членаў антысавецкіх партый, белагвардзейцаў, жандараў і чыноўнікаў царскай Расіі, бандытаў, рээмігрантаў, удзельнікаў антысавецкіх арганізацый, царкоўнікаў і сектантаў, крымінальнікаў-рэцыдывістаў".

Згодна з загадам усе ўказаныя асобы ўмоўна дзяліліся на дзве катэгорыі. Да першай адносіліся "найбольш варожыя з пералічаных вышэй элементаў", якія падлягалі расстрэлу. Усе астатнія ўтваралі другую катэгорыю, для якой рыхтаваліся турмы і лагеры тэрмінам ад 8 да 10 гадоў.

Загадам наркома ўнутраных спраў СССР ад 30 ліпеня 1937 года быў вызначаны персанальны склад "троек". Старшынямі назначаліся наркомы ўнутраных спраў саюзных і аўтаномных рэспублік, начальнікі краявых ці абласных упраўленняў НКУС, членамі — першыя сакратары ЦК кампартый саюзных рэспублік, краявых і абласных камітэтаў ВКП(б) і рэспубліканскія, краявыя, абласныя пракуроры.

Не прайшло і двух тыдняў пасля выдання гэтага загада, як з'явілася новае, яшчэ больш буйное рашэнне.

11 жніўня 1937 года Яжоў падпісвае чарговы загад, згодна з якім працэдура асуджэння яшчэ больш спрашчалася. Цяпер скоры суд ужо чынілі не толькі "тройкі", але і "двойкі". У іх склад, згодна з загадам, уваходзілі начальнікі органаў унутраных спраў і мясцовыя пракуроры.

Цікава, што гэты загад М. Яжова санкцыянаваны подпісамі І. Сталіна, В. Молатава, Л. Кагановіча і С. Касіора.

З гэтага моманту вакханалія рэпрэсій стала некіруемай. "Тройкі" і "двойкі", нібыта спаборнічаючы ў эфектыўнасці, з кулямётнай хуткасцю вырашалі лёсы людзей. Колькасць асуджаных да вышэйшай меры імкліва расла. Службы, што прыводзілі смяротныя прыгаворы ў выкананне, працавалі з напружаннем. Узнікла нават праблема індустрыялізацыі метадаў знішчэння. І яна была вырашана.

### ЧАС ТРЫУМФУ

Гучныя працэсы шкоднікаў, шпіёнаў, дыверсантаў і іншых "ворагаў народа" ўзнеслі Мікалая Яжова на вяршыню славы.

Яшчэ не паспелі адгучаць здравіцы з выпадку прысваення яму спецыяльнага звання генеральнага камісара дзяржаўнай бяспекі, як прыйшла новая выключная адзнака. Горад Сулімаў Арджанікідзеўскага краю перайменоўваўся ў Яжова-Чаркеск.

17 ліпеня 1937 года Прэзідыум Вярхоўнага Савета СССР прымае рашэнне аб узнагароджанні М. Яжова ордэнам Леніна "за выдатныя заслугі ў справе кіраўніцтва органамі НКУС па выкананні ўрадавых заданняў".

На кастрычніцкім (1937 год) Пленуме Цэнтральнага Камітэта партыі Яжоў выбіраецца кандыдатам у члены Палітбюро ЦК ВКП(б). Праз непрацяглы час паведамляецца аб прысваенні Школе ўдасканалення каманднага саставу пагранічных і ўнутраных войск НКУС СССР імя М. Яжова.

У снежні 1937 года ўся краіна шумна адзначала дваццатую гадавіну ВЧК-ДПУ-АДПУ-НКУС. Газеты друкавалі вялікія партрэты Дзяржынскага і Яжова. У іх гонар складаліся вершы, развучваліся песні. Піянерскія атрады спаборнічалі за права насіць іх імёны.

У абстаноўцы ўсеагульнага лікавання з выпадку знамянальнай даты 20 снежня ў Вялікім тэатры адбыўся ўрачысты сход. Разам з Яжовым у прэзідыуме сядзелі Молатаў, Варашылаў, Кагановіч, Хрушчоў.

З асноўным дакладам выступіў Анастас Мікаян. Не было такіх найвышэйшых ступеняў, якімі ён не ўвянчаў бы заслугі "таленавітага сталінскага вучня" і "любімца савецкага народа" Мікалая Яжова. Дакладчык заклікаў прысутных "вучыцца ў таварыша Яжова сталінскаму стылю работы, як ён вучыўся і вучыцца ў таварыша Сталіна". Дружнымі апладысментамі сустрэла зала пранікнёныя словы прамоўцы:

— Добра папрацаваў НКУС за гэты час!

У час выбарчай кампаніі 1938 года многія працоўныя калектывы і грамадскія арганізацыі краіны з энтузіязмам вылучалі сваім кандыдатам у дэпутаты Вярхоўнага Савета "любімага сына савецкага народа, вернага рыцара рэвалюцыі, нязломнага бальшавіка, крыштальна сумленнага партыйца, блізкага саратніка вялікага Сталіна таварыша Яжова Мікалая Іванавіча".

Канец 1938 года быў азнаменаваны з'яўленнем звышсакрэтнага дакумента, які не меў аналагаў у нашай гісторыі. Размова ідзе аб загадзе НКУС № 00827, падпісаным камісарам дзяржбяспекі 1-га ранга Л. Берыя. Гэты загад быў накіраваны з наступным экстраардынарным суправаджальным пісьмом: "Рассылаецца для ведама членаў бюро ЦК Нацкампартый, крайкомаў, абкомаў, акругкомаў, гаркомаў і райкомаў загад НКУС ад 27 снежня, зацверджаны ЦК ВКП(б). Сакратар ЦК І. Сталін. 29 снежня 1938 года." Першы і апошні раз у нашай гісторыі дакумент НКУС быў разасланы ад імя партыі. Становішча, відаць, было крытычным. Загад, зацверджаны Сталіным, гаворыць аб тым, што маюць месца выпадкі вярбоўкі агентаў і паведамляльнікаў з ліку адказных кіраўнікоў партыйных, савецкіх і гаспадарчых апаратаў і работнікаў абслугоўваючага апарату партыйных органаў. Фармулёўка "маюць месца выпадкі", вядома, недакладная, але не мог жа Сталін адкрыта прызнаць, што многія партыйныя і дзяржаўныя лідэры самага рознага ўзроўню, у тым ліку і вельмі высокага, сталі "сексотамі" і сам партыйны апарат усё больш ператвараўся ў паведамляльны прыдатак да органаў бяспекі. А гэта ўжо было небяспечна і для самога правадыра. Можа быць, тут была адна з галоўных памылак Яжова, якая каштавала яму ў рэшце рэшт жыцця.

Пастанаўляючая частка кароткая і катэгарычная: "Спыніць вярбоўкі адказных работнікаў партыйных, савецкіх, гаспадарчых і грамадскіх арганізацый, а таксама абслугоўваючага персаналу партыйных камітэтаў. Неадкладна спыніць сувязь з агентамі і паведамляльнікамі гэтай катэгорыі і паведаміць ім пра гэта з выклікам аб адабранні падпіскі. Асабістыя і рабочыя справы ўказаных вышэй катэгорый агентуры знішчыць у прысутнасці прадстаўнікоў рай(гар)комаў і скласці акт аб гэтым. Паведаміць аб выкананні загада спецыяльнай дакладной запіскай праз дзесяць дзён". Напэўна, не адзін з "гэтай катэгорыі агентаў" з ліку сакратароў камітэтаў, парткомаў і іншых буйных кіраўнікоў уздыхнуў з палёгкай. А ў першыя дні новага 1939 года па ўсёй краіне гарэлі папкі з анкетамі і даносамі... высокапастаўленых сексотаў.

Зрэшты, забарона тычылася вярбоўкі афіцыйнай, аднак нішто не перашкаджала даносіць "па загаду сэрца".

24 верасня 1938 года быў арыштаваны нарком унутраных спраў Беларусі Барыс Берман. На допыце ён паказаў, што ў 1937—1938 гадах наркомам унутраных спраў СССР Яжовым і яго намеснікам Фрыноўскім даваліся варожыя ўказанні аб рашучай барацьбе з уяўнымі ворагамі народа, што паўсямесна прыводзіла да масавых арыштаў ні ў чым невінаватых савецкіх грамадзян. Па гэтаму факту ні Яжоў, ні Фрыноўскі дапытаны не былі. У той час ім нават не паведамілі аб наяўнасці такіх паказанняў супраць іх.

22 лютага 1939 года Ваенная калегія Вярхоўнага суда СССР прыгаварыла Б. Бермана "за шпіянаж і варожую дзейнасць у органах НКУС" да вышэйшай меры пакарання. На наступны дзень прыгавор быў выкананы. Тым самым выключалася ўсякая магчымасць далейшай праверкі паказанняў Бермана шляхам вочных ставак з Яжовым і Фрыноўскім, пастаноўкі дадатковых пытанняў і іншых следчых дзеянняў з удзелам асуджанага наркома.

Справа Барыса Бермана аказалася першым, аднак зусім не адзіным сігналам аб масавых арыштах і іншых злоўжываннях органаў НКУС пад кіраўніцтвам Яжова.

### КРАХ

Тым часам у крамлёўскіх калідорах улады лёс Яжова быў ужо вырашаны.

Яго ўзялі на досвітку 10 красавіка 1939 года. У кабінеце ў Яжова былі схаваны чатыры пісталеты: адзін — у шуфлядзе пісьмовага стала, іншыя — за кнігамі ў кніжных шафах. Мусіць, ён вельмі баяўся за сваё жыццё, калі так хаваў пісталеты ў розных месцах. Увогуле, ён меў многа зброі...

З вопісу забранага пры арышце. Пісталеты: "вальтэр" — 2 штукі, "браўнінг" — 2 штукі, "маленькі" — 1 штука. Вінтоўкі і ружжы — 5 штук, "баявыя патроны да іх" — не халастыя ж хаваць. Яшчэ "маўзер", "да яго 7 патронаў", — відаць, нарком на выпадак атакі вырашыў адстрэльвацца да апошняга "патрона".

Няма сумнення, што Яжоў, вядома ж, жыў на шырокую нагу. Рэчы ў яго канфіскоўваліся і ў Крамлі, і ў кабінеце наркома, і на дачы...

З аднаго толькі (з трох) вопісаў маёмасці, канфіскаванай пры арышце. **Мноства паліто, плашчоў, шынялёў, 9 пар ботаў, 13 гімнасцёрак, 14 фуражак і гэтак далей. Дзесяткі жаночых паліто, плашчоў, сукенак, 48 кофтачак, 31 капялюшык... "Фігуры" мармуровыя, фарфоравыя, медныя, бронзавыя — 34, "карціны ў рамках і пад шклом" — 29, партрэты — 9 і да т. п. І гэта толькі адзін вопіс з трох. А ў пратаколе вобыску пры арышце яшчэ значацца: "друкаваны матэрыял-пераклад кнігі Л. Фейхтвангер на 138 аркушах", назва не ўказана, але, відаць, гэта "Масква 1937". "Кніг ворагаў народа Троцкага, Бухарына, Зіноўева, Каменева і іншых — 103 штукі". "Альбомы са здымкамі ворагаў народа" — 2 штукі", "Розныя нататкі на 84 аркушах і разарваная запіска, выцягнутая з попельніцы".**

Яжова правялі праз створаную ім самім зневажальную працэдуру: сарвалі знакі адрознення і ордэны, распранулі дагала і старанна агледзелі ўсе натуральныя поласці цела, зрэзалі гузікі з адзення і знялі шнуркі з абутку. У турэмнай камеры гэты нізкарослы шчуплы чалавек ужо нічым не нагадваў усемагутнага гаспадара Лубянкі.

Бясконца пацягнуліся доўгія дні і бяссонныя ночы адзіночнага зняволення. Былому народнаму камісару прад'явілі абвінавачванне ў кіраўніцтве змоўніцкай арганізацыяй у войску і органах НКУС, у падрыхтоўцы тэрарыстычных актаў супраць кіраўнікоў партыі і дзяржавы, у планаванні ўзброенага паўстання. Асобы пункт абвінавачвання — шпіянаж на карысць замежных дзяржаў. У пачатку следства Яжова абвінавачвалі ў супрацоўніцтве з нямецкай разведкай, у канцы — фігурыравалі ўжо разведслужбы Вялікабрытаніі.

Такая перамена ў пэўнай ступені была, відаць, звязана са змяненнем знешнепалітычнай арыентацыі СССР — перагаворы аб узаемадапамозе з Вялікабрытаніяй і Францыяй (сакавік—жнівень 1939 года) і падпісанне савецка-германскага дагавора аб ненападзенні ў жніўні таго ж года.

Але ўсе гэтыя хістанні палітычнага курсу ўплывалі на змест прад'яўленага Яжову абвінавачвання ў шпіянажы толькі ў частцы ўказання канкрэтнай дзяржавы, на карысць якой нібыта дзейнічаў былы нарком. Сутнасць жа абвінавачвання ў супрацоўніцтве з замежнай разведкай заставалася нязменнай.

3 лютага 1940 года на закрытым пасяджэнні Ваеннай калегіі Вярхоўнага суда СССР падсудны Мікалай Яжоў быў прызнаны вінаватым па ўсіх пунктах прад'яўленага абвінавачвання і прыгавораны да вышэйшай меры пакарання — расстрэлу.

На досвітку наступнага дня прыгавор быў прыведзены ў выкананне. Па расказах відавочцаў, у свае апошнія імгненні ў глыбокім сырым падвале Суханаўскай турмы маленькі шчуплы чалавек доўга бегаў між чатырох сцен, ратуючы сябе ад куль. Але гэта хутчэй нагадвала канвульсію. Жывым з гэтага падвала не выходзіў ніхто...

Піцерскі слесар і казанскі партработнік Мікалай Яжоў застаўся ў гісторыі як і кат, і ахвяра. Але ж хто з кіраўнікоў нашых спецслужб застаўся ў грамадскай свядомасці са знакам плюс? Быў Дзяржынскі, але цяпер і пра яго стала вядома значна больш, чым дапускалася ў рамках "сказання" аб высакародным "жалезным" Феліксе. Дык, можа быць, справа не толькі ў асобе, а ў сістэме палітычных каардынат, у якія гэтая асоба ставіцца, узначальваючы спецслужбы ў таталітарным грамадстве? Такое было не толькі ў нашай краіне. Ну а што тычыцца асабістага ўкладу ва ўсю гэтую агіднасць... Помніце "Дракона" Шварца? Геніяльная п'еса, і яна не толькі аб фашызме. Дыялог двух герояў, адзін з якіх апраўдваецца за ўчыненае зло і гаворыць, што ён гэтаму навучыўся ў школе дракона. Адказ трапны і бязлітасны: "Усё так, але хто ж табе, нягоднiку, загадаў быць у ёй першым вучнем?"

На жаль, "першых вучняў" на шляху ў нас заўсёды хапала. Выгадна было. Можа, у гэтым уся справа.

У антычных дэспатыях існавала традыцыя пазбаўляцца ката, які пакараў сапернікаў тырана. Гістарычная памяць аб бязлітасных расправах над пакорлівымі выканаўцамі жорсткіх загадаў перажыла стагоддзі.

Але гэта не дадзена было ведаць недальнабачнаму наркому.

**Ігар КУЗНЯЦОЎ.**

# ПРУСКАЎСКІ УЛІС

**Працяг.**
**Пачатак у №№ 11—12.**

Гадзінамі боўталіся ў халоднай вадзе, пакуль некалькі разоў не напоўняць шлюпку і не адвязуць яе на смак. Вустрыцы, расказваў Спайдэр, калі адчуваюць небяспеку, шчыльна зачыняюць свае створкі і зарываюцца глыбей ў пясок. Але іх знаходзілі нават у пяску, кідалі ў шлюпку і адвозілі на смак, складвалі, як і рыбу, у трум, і калі трум запоўнены, смак плыве ў прызначанае месца, дзе капітана чакалі спажыўцы гэтага тавару. Асабліва цікавіліся ім гаспадары рэстаранаў, салунаў. Аматары елі вустрыц сырымі, запіваючы півам і віскі.

Пакуль што, аднак, трэба было пачакаць: вустрычны сезон яшчэ не наступіў...

Калі смак стаяў ля прычала, капітан Лукас амаль не выходзіў з сваёй каюты. Загады перадаваў праз боцмана. На гэты раз ён загадаў сабрацца, калі ўжо добра звечарэла. Каманда апранула цёплыя світэры, на нагах тыя самыя рыбацкія боты. Пасярэдзіне стаяў капітан. У зубах — люлька.

— Прашу ўвагі. Ідзём на вустрыцы, — сказаў капітан і, не вымаючы з зубоў люлькі, чмыхнуў чырвоным носам.

"Але ж і нос, — падумаў Лявонка, — нібы хто паміж шчок моркву прыткнуў".

— Уэл? — азваўся боцман, акінуўшы вокам усіх прысутных.

— Але ж гэта браканьерства, — сказаў Спайдэр.

Капітан і боцман амаль адначасова павярнуліся ў яго бок. Матрос адразу замоўк. Капітану падпарадкоўваліся поўнасцю і безагаворачна.

Смак скрануўся з месца і ціха адышоў ад берага.

— Поўны ўперад! — скамандаваў капітан і пыхнуў люлькай.

Лавіць ракушак дазвалялася ў сезон — пад восень, а пакуль што — Павук меў рацыю — гэта лічылася браканьерствам. Таму яны і пайшлі ночу. Лявонка, як бы адчуваючы нешта нядобрае, супакойваў сябе: "Гэта апошні раз. Зараблю на дарогу і паеду. Хопіць! Надаела бадзяцца па свеце. Пара ўжо і да сваёй гаспадаркі вярнуцца. Тое-сёе, здаецца, зразумеў..."

Пазіраючы на хвалі, ён уяўляў, як красуе жыта на прускаўскіх палях, што падступаюць да самай Бярэзіны. А лугавая раніца над Лоснай! Апошнім часам ізноў усё часцей яго наведвала абвостранае пачуццё шкадобы да тых, што засталіся там, далёка, дома. Адны. Без чыёй-небудзь дапамогі. А ён жа іх карміцель! Часам настальгія, з'яўляючыся невядома адкуль, пранізвала ўсю яго істоту, перахоплівала дыханне. Сёння, калі яны ішлі па вустрыцы, гэтае пачуццё ізноў востра нагадала пра сябе.

Злева наперарэз плыла шырокая баржа, на якой былі горы скрынак з нейкім таварам. Капітан падаў каманду, і смак абышоў баржу, развярнуўшыся перад самым яе носам. Выплыўшы з вусця Гудзона, павярнулі на поўдзень, да мелкаводдзя. Праз гадзіну якую, калі бераг быў блізка і плысці стала небяспечна, сталі на якар і спусцілі шлюпку. Некалькі рыбакоў, у тым ліку і Лявонка, селі ў яе і падаліся ў бок берага.

— Уважліва глядзіце ў ваду! Чуеце? Уважліва! — наказваў боцман. Побач з ім знаходзіўся капітан Лукас. Ён стаяў нерухома і непахісна, упёршыся нагамі, як бы ўрос у палубу і не адчуваючы гайданкі. Люлькі не курыў, мусіць, каб не выдаць сябе агеньчыкам.

— Што можна ночу ўбачыць? — незадаволена круціў галавой Спайдэр.

— Убачыш! — строга адказаў яму боцман, які разам з капітанам і машыністам заставаўся на смаку. — Нагой намацаеш і ўбачыш.

Спайдэр меў рацыю: убачыць ракушку з вустрыцай цяжка — трэба будзе абмацваць дно рукамі ці нагамі. Пара. Бераг знаходзіўся побач. Яны пакінулі шлюпку і, пераваліўшыся праз борт, апынуліся ў вадзе.

Апошнім часам здароўе ў прускаўца стала папраўляцца, кашаль адступіў. Затое распухлі і пачалі трэскацца рукі. Праўда, трэскаліся, калі абсыхалі, а ў вадзе скура мякчэла і можна было трываць. Ракушкі ён намацваў нагамі, потым даставаў рукою і, напоўніўшы карзіну, нёс у шлюпку. Так працягвалася некалькі гадзін, але стомленасці ён не адчуваў, працаваў, як заведзены.

Вецер між тым мацнеў, узбуйняў і пеніў хвалі, і тыя паводзілі сябе ў адносінах да ракушачнікаў усё больш варожа, нібы хацелі прагнаць з абсягаў гэтай воднай прасторы. Прагнаць, каб папярэдзіць што благое? Бо насоўваўся, не інакш, шторм, і трэба было вяртацца дадому. Ракушачнікаў паклікалі на смак.

— Тэмпо! Тэмпо! — прыспешваў боцман.

Лявонка ўзабраўся на палубу па вяровачнай лесвіцы, і тут жа зазвінеў якарны ланцуг. Смак нібы ажыў і загайдаўся на хвалях. Вецер дзьмуў з паўднёвага захаду. "Той самы тарнада!" — падумаў ён і пачуў, як над ім, уверсе, галасна закрычалі нейкія птушкі. У шуме вады пазнавалася стоеная трывога. Выраслі і добра такі ўспеніліся хвалі. Разбіваючыся аб борт, яны абдавалі веерам халодных пырскаў. Смак натужна скрыпеў усімі сваімі снасцямі. Прыбавілі абароты, і карабель стаў набіраць хуткасць. Хвалі раз'юшваліся ўсё больш, пачалі ўжо абрушвацца на палубу і з пенай перакатвацца праз яе, гублюючы сілу і знікаючы за другім бортам.

Раптам наперадзе з'явіліся нейкія агні.

— Патруль! — занепакоіўся боцман і разгублена пагледзеў у бок капітанскага мосціка.

Гэта і сапраўды быў быстраходны шлюп, які мог без асаблівых намаганняў дагнаць не разлічаны на вялікую хуткасць стары рыбацкі смак, і ў ім магла быць канадская паліцыя. Пражэктарныя агні пагрозліва абмацвалі хвалі.

— Эй, за рулём! — крыкнуў капітан. — Руль да ветру!

Смак павярнуў убок, і вецер туга дыхнуў у твар. Агні таксама адсунуліся некуды ўбок, адсталі, быццам зніклі, але потым ізноў пачалі набліжацца. Адчувалася, што са шлюпа іх заўважылі. Капітан яшчэ раз памяняў курс. Боцман загадаў выкінуць з трума вустрыц, іх выгружалі тымі самымі карзінамі, і Лявонка са Спайдэрам высыпалі за борт.

Машына надрывалася, вібрыруючы ўсімі механізмамі. Кола хрыпла, з перабоямі лапатала па вадзе. У цемнаце Лявонка бачыў, як капітан і боцман нервова пазіралі адзін на аднаго. Смак упіраўся ў вецер, як у якую сцяну. Усё роўна, як нешта павінна было адбыцца.

— Slacr here a bit![1] — крыкнуў капітан, маючы на ўвазе, відаць, машыніста, які стаяў на карме, ля машыны.

Але было позна. Смак, як нейкі падбіты арол, узнёсся ўверх, на грэбень хвалі, і раптам абрынуўся ўніз, захлынаючыся вадой. Наступная хваля ўдарыла яшчэ мацней і змыла з палубы ўсіх, хто на ёй знаходзіўся. Гэта — апошняе, што запомніў прускавец, апынуўшыся ў вірлівай каламуці. Вада выштурхнула яго на паверхню, але з-за хваляў нічога і нікога нельга было ўбачыць, і ён з жахам зразумеў, што дапамогі не будзе, што яе няма адкуль чакаць, што ён адзін у гэтым бязлітасным віры. У свядомасці, нібы ў сполахах бліскавіцы, адзін за адным узнікалі імгненні пражытага. Выразна паўсталі ў памяці маці, сястрычкі, дзед Кірыла. "І Ганна не дачакаецца. Абяцаў вярнуцца, і раптам такое..." Ён па-сабачаму доўга валтузіўся ў вадзе, змагаўся з хвалямі, адплёўваўся і нечакана для сябе заўважыў, як яго прыціснула да нечага цвёрдага. Гэта была перавернутая шлюпка з іх смака, на якой ён падплываў да берага за ракушкамі. З цяжкасцю, кожны раз саслізгваючы, абломліваючы пазногці, ён усё ж такі змог учапіцца за кіль і разам са шлюпкай аддаўся на волю лёсу.

А Спайдэр? А астатнія? І зор чамусьці не відаць. Вада здавалася густой і вязкай, як дзёгаць. Гайдаліся і біліся аб абернутую шлюпку хвалі, заліваючы тапельца. Некуды знік і патруль, як бы яго і не было.

Чалавекам авалодаў нясцерпны адчай: "А можа я чужы для гэтага свету? Калі чужы, то не выплыву..." Дзесьці ў глыбіні істоты самі па сабе пачалі ўзнікаць словы малітвы. Гэта было дзіўна і нечакана для яго самога — вусны самі шапталі забытыя словы: "Божа міласціў, будзі мяне грэшнага, саздаве імя Госпадзі, памілуй мя, Госпадзі, без чысла саграшыма, Госпадзі, памілуй..."

Ён паўтараў і паўтараў словы малітвы, пранікаючыся яе містычным сэнсам. Сіл, здаецца, ужо не было, і яму каштавала невераемных намаганняў, каб не страціць прытомнасці. "А Пруска? Няўжо так і не ўбачу? Нават ведаць нічога не будуць. Што благое падумаюць... Я павінен, павінен змагчы, у мяне павінны быць сілы, каб зрабіць гэта..." У галаве мітусілася нейкая бяссэнсіца, абрыўкі думак: "Ну вось табе і Амэрыка. Гэта ж трэба было ехаць за свет, каб утапіцца". Нясплынна мільгалі карціны пражытага жыцця. Зноў успомнілася маці. З глыбіні свядомасці выплыў вобраз Ганны. "Не, я павінен жыць, я мушу жыць, я хачу жыць!" Ён яшчэ мацней учапіўся за кіль.

Неба з цёмнага паступова станавілася ружовым, але чалавека пакідалі апошнія сілы. На світанні яго ахапіў страшэнны холад, і ён зразумеў, што акалее. Вяла прамільгнула думка: "Усё..." На гэтым ён страціў прытомнасць...

Выратаваў, можна сказаць, цуд. Акалелы, ён нават не адчуў, што нехта ўзяў за плечы, а потым пад рукі і пацягнуў у лодку. Гэта быў той самы патруль, ад якога ўцякаў іх смак.

Ачуняў толькі ў бальніцы.

— Запаленне лёгкіх, — сказаў нехта побач.

"Урач, мусіць", — тапелец адкрыў вочы: перад ім стаяў не ўрач, а дзяўчына ў белай сукенцы. Валасы, па модзе, схоплены чарапахавымі грабянцамі. На галаве быццам капялюшык з чырвоным пяром. Хворы нават адчуваў яе дыханне на сваім твары. Шчыпае і пяшчотнае. "Бузукова Ганна, амерыканка! Да бацькі прыехала, на ферму. Не! Не яна. Гэта ж прускаўская Ганна!" Ён паспрабаваў падняць галаву, каб уважлівей яе разгледзець, але дзяўчына знікла. Усю істоту працяў востры нутраны боль, і, страціўшы свядомасць, хворы ўпаў на падушку.

Прыйшоў у памяць раніцай наступнага дня. Трызненне прайшло. Нутро страпянулася ад радаснай думкі, што не загінуў, можа жыць, рухацца, бачыць святло. "А каб утапіўся, усё б страціў!"

У той раз бура на рацэ Гудзон і на возеры Эры патапіла не адзін іх смак, а ажно шэсць параходаў, забрала трыццаць пяць чалавек ахвяраў. Гэта праз колькі дзён яму паведаміў урач. Хворы глянуў на рукі з сінімі ўздутымі жыламі: "Вось табе і на! Зноў шпіталь..." Навакольны свет здаваўся яму цяпер нейкім крохкім і кволым. Зрэшты, як і ён сам. Доўга не праходзіў кашаль.

— Лёгкія ў цябе слабыя, нельга табе на вадзе! Табе сухі клімат патрэбны, — тлумачыў урач, — ехаў бы ты, дружа, на поўдзень!

Пасля бальніцы, паправіўшыся, з'явіўся ў свой барак, у якім жыў, калі плаваў на смаку. З каманды ніхто не вярнуўся. Загінуў, мусіць, і Спайдэр, пра якога ў прускаўца засталіся добрыя ўспаміны. У бараку жылі ўжо новыя людзі — пра тых ніхто нічога не ведаў.

Тут яго дачакаўся ліст з Прускі, і ён адразу стаў чытаць. Пасля звычайных прывітанняў Тоня, відаць, пад сямейную дыктоўку, пісала:

"...Робіцца нешта і на небе, і тут, у нас. Гэта ж пабудавалі тую крухмальню. Крухмальня дае пану, вядома, добры прыбытак. Але здарылася і ў нас забастоўка. Новы настаўнік Мірон Міхайлавіч і раней казаў: "Несправядліва з вамі абыходзіцца Падгурскі. Вунь, кажа, у Амэрыцы па восем гадзін працуюць, не болей! А вы — самае малое па дванаццаць! Хаця б да дзесяці знізілі..." Уступаць у перамовы ніхто не асмельваўся. Праца ішла па-ранейшаму, і ўсе думалі, што так і будзе. Ніхто ні разу не памкнуўся змяніць заведзены ход справы. І толькі калі Падгурскі знізіў расцэнкі: замест дваццаці капеек у дзень стаў плаціць пятнаццаць, — пачалося абурэнне. Бо пуд бульбы на базары і той каштаваў трыццаць капеек. Пачаўся склік. Людзі шумелі, спрачаліся, не пазнаць было нашых прускаўцаў. Забастоўшчыкаў пан хацеў прагнаць з работы. Але не. Нечакана для ўсіх згадзіўся пайсці на ўступку. Але хутка бульбу паварылі і праца на крухмальні скончылася, усіх распусцілі.

Як ты там? Цяжка, мусіць? Але спадзяемся на літасць Бога, што ўсё будзе добра.

І яшчэ паведамляем табе, што з Амэрыкі вярнуўся Цімафей Хлябіч, твой таварыш. Кажуць, што гэну забастоўку ён і ўчыніў.

Яшчэ збіралі грошы на помнік трохсотгоддзю царскага дома дынастыі Раманавых. У нас ніхто дакладна не ведае, калі тое трохсотгоддзе. Бацюшка айцец Глеб і ўраднік Кастанты кажуць па-рознаму. Настаўнік Прускаўскай царкоўнапрыходскай школы Мірон Міхайлавіч Клімчук адмовіўся даваць, сказаў, што хутчэй утопіцца, чым зробіць гэта. Бацюшка айцец Глеб празваў яго вальнадумцам. Паліцэйскі ўраднік Кастанты данёс ты словы станавому, і той чыніў допыт..."

Ліст, як звычайна, заканчваўся шматлікімі паклонамі, у тым ліку паклонам ад Ганны, пра якую было напісана:

"Ходзіць Ганна як ружа, уся Пруска дзівіцца яе маладосці і харастве.Але ад Васіля з Амэрыкі па-ранейшаму нічога не чутно..."

Прачытаўшы, Лявонка замаркоціўся. Думаў пра Ганну, пра тое, што трэба вяртацца дадому. Там вунь якія падзеі. Успомніўся чамусьці Андрэй Кляновік. А можа ён і мае рацыю? Яго прысутнасць на тым прускаўскім сходзе была б вельмі дарэчы. І яшчэ больш захацелася дадому. Пакутлівая хвароба — настальгія. Ён адчуваў, як неадступным ценем ходзіць за ім яго адзінота. Вяртацца, вяртацца, вяртацца...

Трэба было зарабіць на дарогу і вяртацца. Але дзе знайсці работу — асабліва пасля бальніцы! І тут у яго ўзнікла думка падацца на ферму да Бузукоў.

Стаяла лета. Білет купіў усё да той жа станцыі Маршалтаўн. Аконныя шыбіны ў вагонах былі прыспушчаны, і пасажыры адчувалі дыханне цёплага ветру, які нёс тонкі водар далёкіх траў і кветак. Ён углядаўся ў прывычныя ўжо краявіды — мільганне рэчак, азёраў, рэдкіх фермерскіх гаспадарак. Седзячы і заснуў.

У Ілінойс прыехаў пад раніцу. Нарэшце знаёмае:

— Маршалтаўн!

Трава серабрылася пад узыходзячым сонцам, але расы не было. Вось як здараецца: не спадзяваўся, што ізноў давядзецца ісці па гэтай дарозе. Усё тое ж наваколле, прырода, мясціны. Тыя ж ільмы, толькі, здаецца, яшчэ больш магутныя, разложыстыя. Пад дрэвамі — каровы, авечкі. Пойма ўсё той жа магутнай Волгі. Буслоў толькі чамусьці няма, і думка пабегла ў Пруску: а ў нас буслы — на кожнай балацявіне, на кожнай клуні. А як прыгожа ў Прусцы раніцай, калі сонца таксама толькі ўзыходзіць. Па расе прайсці, на дымок з комінаў пагледзець. Блінцамі, бульбай свежай пахне. Прускавец глыбока ўдыхнуў у сябе паветра. Цяпер хацелася толькі аднаго: крыху адпачыць, супакоіцца, сабрацца з сіламі і, зарабіўшы грошай на дарогу, вяртацца дадому.

Нарэшце падышоў да каменнай агароджы, што з усіх бакоў абводзіла сядзібу Бузукоў. Агароджа зарасла бружмелем і шыпшынаю і стала як бы вышэйшай. Ён успомніў, што ёсць у ёй і яго камянні. Усё выглядала так, як і раней, аднак заўважаліся і некаторыя змены. Дом пафарбаваны ў зялёны колер.

*Уладзімір ГІНІЛАМЁДАЎ*

[1] Збаў хуткасць! (*англ.*)

УСПАМІНАЙМА ПРА ІХ!

# ЖЭНЯ, ЖЭНЕЧКА, ДЗЕ ТЫ?!

## *СЁЛЕТА СПАЎНЯЕЦЦА 10 ГАДОЎ З ДНЯ СМЕРЦІ ЯЎГЕНІІ ЯНІШЧЫЦ*

Калі б я была мастаком, я адмовілася б надаваць партрэту Жэні Янішчыц падкрэслена ўяўную значнасць асобы. Адмовілася б і ад традыцыйных атрыбутаў, якімі здаўна — не толькі вялікіх — вянчаюць абраннікаў паэтычнага Алімпа. Муза з Лірай у вешчых пярстах. За спіной Крылы, што ўзносяць у паднебныя вышыні натхнення...

Я намалявала б зусім іншы Жэнін партрэт. Яе ўласнымі вершамі.

**Не воблачка, а проста аблачынка**
**Загадкава плыве над галавой.**
**Смяюся я:**
**вясёлая дзяўчынка,**
**Як матылёк,**
**ляціць над кладкай той...**
**Як добра ёй журыцца**
**беспрычынна!**
**Да твару ёй і лета і зіма...**
**Ўсміхнуся я:**
**яшчэ бяжыць дзяўчынка**
**Па кладцы той,**
**якой даўно няма.**

...Бяжыць, а насустрач ёй раскрывае абдымкі бясконцы, акрылены свет харaства, дабрыні, людскога даверу і спагады. І свет гэты ў грудзях дзяўчынкі смяецца, спявае, журыцца. І кладзецца, складаецца ў радкі вершаў. Яшчэ толькі смутна адчутых, толькі-толькі здзіўлена вымаўленых услых. Вершам таксама хочацца жыцця і свету!

...І першай пачуе іх, вядома ж, маці. Маці спачатку падзівіцца са свае разумнае дачушкі. Нацешыцца, якая яна ў яе здольная... Ды не маючы вельмі часу слухаць, што там яшчэ прыйшло ў бесклапотную галаву, яшчэ і насварыцца:

— От, як абы-што выдумляць, лепей памажы мне на агародзе. Работы вунь — мора!

...Быў, вядома ж, поспех і гонар у школе. На розных раённых алімпіядах. Такіх вершаў не пісаў ніхто не толькі з вучняў, але не чутно было, каб і самі настаўнікі...

Пасля самых першых публікацый у ЛіМе і ў рэспубліканскіх часопісах сталічныя крытыкі таксама ў адзін голас абвясцілі нараджэнне маладога адметнага паэтычнага таленту... Так па-юначы акрылена і радасна ступіла ў беларускую літаратуру Жэня Янішчыц. Лёс не пашкадаваў ёй ні вядомасці, ні гучнай славы, ні стрэч і дарог, пра якія можна было толькі марыць. І зайздросціць. Асабліва сябрам і добрым таварышкам-сяброўкам... Не размінулася, не абышла бокам яе і Доля: паслала-падаравала ёй бяздоннае Каханне. Праўда, гэтак жа, як шчодра сыпала з поўнага прыполу, гэтак, па-жаночы, зайздросцячы, і адбірала, расчароўвала, развейвала яго па вей-ветру. Як нажом, да крыві, рэзала. Разбівала на адчайнай хвалі лодачку...

**Што за вогненнае шчасце:**
**Скошан лёс, як сенакос.**
**Да цябе мне не прыпасці —**
**Прыпадаю да нябёс.**

...Вершы Жэні Янішчыц, як і сама яна, былі мне вельмі блізкія. І зразумелыя.

Яна была з тых маіх паэтаў, чые кнігі заўсёды ляжаць на маёй "угалоўнай" тумбачцы — для зручнасці, для позняга вячэрняга чытання. Іх перачытваю я па некалькі разоў. Потым адкладваю, адыходжу ад іх, адвыкаю... Даю ім таксама адпачыць ад сябе... А потым — па часе — вяртаюся да іх зноў, з такім адчуваннем, нібыта мне зноў прызначана спатканне, якога я даўно чакаю.

У такія познія вечары — у тыя гады я жыла на Паркавай магістралі, жыла адна, а Жэня з сынам жыла на Ульянаўскай, 4, — у нас былі даволі частыя, доўгія тэлефонныя стрэчы.

— Добры вечар! Прабачце... Ці не позна — у паўноч стукаюся ў Вашу хату?..

— Добры вечар, Жэнечка! Якраз самы найлепшы час — для летуценнікаў і тых, хто позна не спіць.

(Божа, як усё мяняецца — і час, і жыццё! Як мала іх засталося — у маім жыцці — і званкоў прыветных, уцешных... Адыходзяць, як і не было іх ніколі, і "паўночы" тыя, сагрэтыя колішняй чулай увагай і патрэбай сказаць і пачуць у адказ жаданыя патрэбныя словы... Як змянілася я сама!..)

...Часам у Жэні была неабходнасць прачытаць новыя свае вершы. Якія яшчэ толькі прараслі ў яе душы і на паперы яшчэ пакуль не заўсёды знаходзілі сваё адзінае неабходнае месца... Паэтам абавязкова патрэбны слухачы! Я была ўдзячнай слухачкай...

Часам я і сама ўспаміналa нешта, адпаведнае нашаму агульнаму настрою. Таксама нечыя радкі з вершаў.

Агульны настрой быў не выпадковы. Жанчына жыве адна. Жанчына гадуе дзіця. (Пагадавала ўжо дзяцей...) Жанчыне адной цяжка. А калі жанчына яшчэ і зусім маладая... Ёй цяжэй непараўнальна! І адзінае выратаванне ў яе (калі распятая яна лёсам на крыжы Паэзіі) — вершы. Вершы! Яны рэжуць душу па-жывому. Але яны ж і нясуць ёй лекі.

**О ты, хто падарыў**
**Мне толькі гром і вецер,**
**Ты самы лепшы быў**
**З усіх, хто ёсць на свеце...**
**. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .**
**Ты шэптам шчыраваў**
**Па-над маёй маркотай...**
**Пайшоў. Адмаяваў.**
**Адлетаваў. Адлётаў.**

**Няхай бяда прыб'е**
**Скразной слязой вяковай —**
**Мая душа табе**
**Была невыпадковай.**

...І гэтай Душы ("Сказаў: "Жыві адна".) трэба было штодня спальваць сябе на папялішчы нязгаслага кахання, трэба было плакаць і спяваць вершамі. І вершамі жыць!

І гадаваць адной сына.

...Перагортваю Жэніны кнігі. Памногу разоў вяртаюся і перачытваю радкі, якія помню і люблю. Нешта, пэўна, блізкае і сугучнае знаходзіла, адчувала і яе душа на маіх уласных старонках.

"Мілая Алена Сямёнаўна, дай Бог здароўя, бо жаль наш нескончоны. Дзякуй лёсу, што ёсць Вы і Ваша глыбокае сэрца. Ваша творчасць!

Ваша Жэня Янішчыц".

Надпіс на кнізе лірыкі "Пара любові і жалю". На фронтыспісе кнігі ў авале мілы яе партрэт. Не прыгажуня. Хутчэй — загадка. Нечым няўлоўным вельмі падобная на Цётку — Алаізу Пашкевіч-Кейрыс... (Ведаю, вельмі блізкую яе ўласнаму духоўнаму свету).

Жывучы ў гады замужжа ў Празе — адтуль, напэўна, займела яна непадкрэслены, нязмушаны шарм — еўрапейскі — ва ўменні апранацца і выглядаць заўсёды элегантна. Адтуль некалі — у свой яшчэ не самы безнадзейны юбілей — атрымала я, нечакана зусім, у Ялту і адметную паштовачку-візітку з нешматслоўным, сардэчным вітаннем. За подпісам: "Жэня—Сяргей"...

...У кастрычніку восемдзесят пятага года я лячылася ў "Прыдняпроўскім" (пад Рагачовам) санаторыі, і да мяне дайшла чутка, што ў Жэні вельмі цяжка захварэў сынок. (Ці я не ведала, колькі важыць матчына пакута над хворым дзіцем?..) Ведаючы, што шчырае слова спагады і падтрымкі, калі і не паможа, то хоць гаюча павее на збалелае сэрца, я тут жа напісала Жэні ліст. А неўзабаве атрымала і ад яе адказ.

"Мілая Алена Сямёнаўна, добрага Вам здароўечка! Дзякуй Вашаму адзыўліваму шматпакутнаму сэрцу, дзякуй за ўсе харошыя пажаданні!

Сапраўды было жахлівае становішча: тры "хуткія дапамогі" за ноч... Яны нічым не дапамаглі, а потым яшчэ цэлыя суткі ў дзіцячай клінічнай бальніцы на Курасоўшчыне ставілі ўсё капельніцы і знімалі таксікоз, аж пакуль разліўся гной, і такім чынам быў устаноўлены дыягназ пры тэмпературы 40,5°!.. Божа, Божачка, думала, што не вытрываю! Адны толькі сцены і ведаюць маё галашэнне, мае малітвы. Малюся малітвамі-радкамі за здароўе сыночка. Павінна ж вымаліць, калі ёсць хто сардэчны на небе... Праўда, ён п'е ўжо морсік, бульён, можна кефір. Шчырую, як умею! І стомы мне няма пакуль што, хоць сутак колькі і не ела і не спала. Можа, потым хіба адчуецца. Але гэта не так страшна, абы Андрэйка хутчэй акрыяў. Цяпер у мяне толькі адно — падняць малога саколіка, выстаяць, выжыць! Дасць Бог, і неўзабаве пасвеціць сонейка і ў нашу хату. Ці ж я настолькі правінілася перад Богам?"

...Перачытваю старонкі таго даўняга Жэнінага пісьма, і, здаецца, і сёння, як жывую, бачу яе, укленчаную перад сынавым ложкам, над спалатнелым любым тварыкам... Чую роспачны голас-маленне да дактароў, да Бога: "Выратуйце!.. Злітуйся, Усявышні, над маім сыночкам!"

...Знямелая Муза нячутна пакідае бальнічную палату. Застаецца адна Маці. Сам-насам са сваёй Любоўю, Надзеяй і Верай.

Вершы вернуцца да яе потым.

...Пра вершы Жэні Янішчыц пісалі і яшчэ напішуць. Іншыя.

Я ведала Жэню не толькі як Паэтэсу. Я ведала — Маці і Жанчыну.

* * *

Калі Жэня атрымала новую кватэру і пераехала ў белы, як чароўны карабель, дом — цераз Свіслач — нашы вокны глядзелі вочы ў вочы... Я і зараз, як прымоўкне, як суцішыцца тлумны горад, як упадуць і запалаюць у люстры Свіслачы прывідныя агні з вокан Жэнінага дома, я і зараз гляджу на іх са свайго акна і міжволі — каторы ўжо год — паўтараю адно і тое ж самотнае пытанне:

**Жэня, Жэнечка, дзе ты!!**
**Куды ты пайшла!..**

Няма адказу.

### ПАМЯЦІ ЖЭНІ ЯНІШЧЫЦ

**Вокны Жэні Янішчыц глядзяцца**
**у Свіслач...**
**Кожны вечар маўкліва гляджу я на іх.**
**Дзе твой позірк шчымлівы!**
**Твой голас крынічны!**
**Я і сёння не веру,**
**Што патух ён. Што сціх...**
**Што спаткнуўся, зламаўся**
**Пад цяжарам лёсу**
**Малады, як павеў, лёгкі крок...**
**І ад плачу знямелі, счарнелі нябёсы,**
**Нават сонца свой страціла зрок.**
**...А вясна зноў гукае ў зялёных**
**абновах.**
**Свіслач гушкае хвалю ўсплёскам**
**вясла.**
**І плыве твой Радок.**
**І звініць тваё Слова!..**
**Жэня, Жэнечка, дзе ты!**
**Куды ты пайшла!..**

**Алена ВАСІЛЕВІЧ.**

ВЫСТАВЫ

# «НА ШЛЯХУ ДА ХРАМА»

Ёсць абраз каталіцкі, на якім словы: "Езус, веру Табе!" Перад ім звычайна моляцца. Постаць Збавіцеля выступае з цемры; з-пад далоні, што прыкладзена да сэрца, льюцца струмені святла, быццам там дзівосны ліхтар. Святло ідзе насустрач, і цемра не паглынае яго.

Памятаю, як я быў зачараваны гэтым відовішчам у старым касцёльчыку ў жмудзінскай глухмені на Ігналінскіх азёрах, калі апынуўся там у пяшчотным узросце.

Блізка такое ж уражанне зрабілі на мяне карціны мастачкі Жанны Будэйка на выставе з назвай "На шляху да Храма". Яна адкрылася ў другім тыдні сакавіка ў Нацыянальным музеі гісторыі і культуры Беларусі. Ніколі не бачыў твораў мастачкі і нават ніколі не чуў пра яе. Тым больш нечаканым сталася ўражанне. Карціны шчыльна, але не замінаючы адна адной змясціліся ў невялікай зале. На іх — нашы старадаўнія святыні, разбураныя альбо адноўленыя ў Нясвіжы, Слоніме, Жыровічах; куток горада, звязаны з гістарычнымі падзеямі; сцежка, прасёлак альбо поле... Амаль у кожным творы знаходзіцца прастора, ад якой ідзе святло.

Помнікі мінуўшчыны на карцінах мастачкі нясуць таямніцу. Аўтар, а разам з ёю і мы трымаем дыстанцыю, глядзім на іх з адлегласці, быццам не адважваючыся падысці бліжэй. Але не з прычыны страху, бо таямнічасць тая пагрозы не ўтрымлівае, але хутчэй з пачуцця павагі да спадарыні вежы ці іншага помніка. Прыязнасць адчуваецца паміж нерухомым манументам — будынкам, дрэвам, утаптаным гасцінцам — і мастаком, што шчыруе над творам. Яны — узаемна прыяцелі, мастак і аб'ект яго ўвагі, але без ценю панібрацтва. Гэткая ж атмасфера даверу і зычлівасці прысутнічае ў зале, калі застаешся сам-насам з творамі.

У час адкрыцця выставы было шмат журналістаў, аматараў і прыхільнікаў творчасці мастачкі. З іх вуснаў ліліся словы падзякі і захаплення. Мастацтвазнаўцы ж адзначалі высокія прафесійныя вартасці, тым больш відавочныя ў такой найскладанейшай тэхніцы, як пастэль. Сапраўды, творы, вельмі дакладныя ў малюнку, мяккія і вытанчаныя, зусім пазбаўленыя, так бы мовіць, салоннага лоску, маюць душу, пяшчотную, далікатную. Яны, на маё адчуванне, не прэтэндуюць на адкрыццё і гучную арыгінальнасць. Але ж арыгінальнымі ёсць, бо маюць індывідуальны мастацкі твар.

Апроч таго, творы гэтыя вельмі хораша пададзеныя: маю на ўвазе атачэнне — рамкі і паспарту. І гэтую дэталь не абмінулі знаўцы мастацтва. Названая нізка твораў, якія дэманструюцца цяпер у музеі, не так даўно было прадстаўлена ў Празе, у галоўным праваслаўным храме чэшскай сталіцы, і зрабіла, як сведчаць, вельмі добрае ўражанне.

Наша мастачка, спадарыня Жанна Будэйка (які ланцуг сугуччаў — Матэйка, Дамейка!..) — маладая і прыгожая. У яе ёсць муж, верны дарадца і надзейны апякун, і двое чароўных дзетак, якія ўжо адкрылі для сябе свет фарбаў.

Нарадзілася мастачка ў Беразіно, што на Магілёўшчыне, але яе далёкія продкі паходзяць з-пад Карэлічаў і Навагрудка. Яе бацька, Аляксей Будэйка, таксама мастак, яе першы настаўнік малявання. Жанна скончыла мастацкую вучэльню імя Глебава ў Мінску, пазней яе настаўнікам быў жывапісец Алег Луцэвіч. Яна працавала ў аб'яднанні "Белкніга", спрабавала сябе ў анімацыйным жанры. Кажуць, яна вельмі здольны педагог, кіраўніца дзіцячай мастацкай студыі. З 1979 года Жанна Будэйка ўдзельнічае ў выставах, групавых і персанальных.

Кажуць яшчэ, што спадарыня Жанна веьмі зычлівая і лёгкая ў сумоўі, без аніякае позы і ганарлівасці. А вось годнасці не губляе ніколі. Ахвотна паверу, калі скажуць, што вельмі руплівы анёлак пільнуе яе працу і сцеражэ яе дом.

**Зьміцер КАЛІСТРА.**



**НА ЗДЫМКУ: Ж. БУДЭЙКА. «Жыровічы. Званіца». 1997 г.**

*ЗАХАПЛЕННЕ*

# ВАЛОЖЫНСКІ АБСТРАКЦЫЯНІСТ



У Вілі Янкелевіча, інжынера Валожынскага лясгаса, а ў вольны ад працы час мастака, сваё светаўспрыманне. Усе карціны, напісаныя ім як у дачарнобыльскі перыяд, так і пасля, сцвярджае аўтар, ствараліся пад уражаннем сноў. Абстрактныя вобразы сваіх начных бачанняў ён адлюстроўвае альбо фарбамі на палатне, альбо разцом у спецыяльна падабраных для гэтага кавалках дрэва. Апошнія свае работы Вілі Львовіч прысвяціў менавіта чарнобыльскай тэматыцы.

"Чарнобыль 2050 года", "Пейзажныя замалёўкі" пасля аварыйнага перыяду — гэтыя палотны раскрываюць не толькі ўнутраны свет мастака, але і расказваюць аб яго перажываннях, развагах пра лёс свайго народа, роднага краю.

Карціна "Птушка Фенікс" — гэта сімвал адраджэння, чалавечай веры ў сілу розуму, перамогі гармоніі над хаосам. Ёсць у калекцыі В. Янкелевіча і карціны рэалістычнага напрамку, як, напрыклад, партрэт калгасніцы, нацюрморт "Астры" і іншыя, што гаворыць аб разнастайнасці форм яго мастакоўскага ўвасаблення.

Аўтар не выпадкова ва ўсіх сваіх работах выкарыстоўвае светлыя тоны. Ён як бы падкрэслівае гэтым, што прыгажосць не толькі цялесная. Святло — вось у чым сапраўдная прыгажосць, сцвярджае мастак. Так вобразамі, яркай палітрай Вілі Львовіч паказвае свой шлях да гармоніі чалавека і прыроды. А пачаўся творчы пошук ісціны В. Янкелевіча яшчэ ў далёкія шасцідзесятыя. Імкненне да самавыяўлення ў малюнку было ў яго яшчэ ў школьныя гады. Тады ён толькі адточваў майстэрства валодання алоўкам. Бачанне свету ў абстрактных вобразах прыйшло пазней, калі ён поўнасцю сфарміраваўся як асоба. Вілі Львовіч успамінае, што ў тыя гады ён шчыра верыў у камуністычныя ідэалы пабудовы грамадства, дзе сувязным звяном паміж людзьмі будзе гармонія чалавечых адносін. Але ў той жа час інтуітыўна разумеў, што ўся гэтая ідэя пабудавана на хлусні. Аднак слепа верыў і дазваляў сабе быць вінцікам вялікай машыны. Так, адгукаючыся ўсім сэрцам на заклік партыі "Усе на будоўлю веку", юнак едзе па камсамольскай пуцёўцы на будаўніцтва савецка-кітайскай чыгункі. Да гэтага часу ён беражліва захоўвае чырвоную кніжачку — камсамольскую пуцёўку. Не, не як сімвал веры ў тыя ідэі, а як напамінак пра маладосць. Тады ў Алма-Аце ён паступіў у мастацкі інстытут. Тады ж, праз год, атрымаў і першую апляхуху ад сістэмы — адлічаны за прыхільнасць да фармалістычнага мастацтва. Цяпер, расказваючы аб гэтым жыццёвым эпізодзе, ён сумна ўсміхаецца. Што было, тое было, — фраза, вымаўляючы якую, чалавек нібыта скідвае са сваіх плеч груз успамінаў.

Мастацкая майстэрня Вілі Львовіча — добры цагляны гараж, у якім некалі стаяў яго "жыгулёнак". Сёння ён увесь у стэлажах і дробных вырабах: драўляныя лыжкі, велікодныя яйкі, свяцільнікі. Заказаў у валожынскага ўмельца заўсёды хапае, амаль увесь горад ведае лесавода-лыжкара. Нехта нават папрасіў В. Янкелевіча выразаць лыжку ў чалавечы рост. Любіць Вілі Львовіч прайсціся па лесе, падыхаць свежым, настоеным на яловай смале паветрам. Глядзіш — і знойдзецца якая-небудзь карчажына, якая тут жа будзе паднята, уважліва агледжана. Нешта прамільгне ў ёй ледзь улоўнае, і гэтага ўжо будзе дастаткова, каб мастак забраў яе з сабой.

**Сяргей САБАДАШ.**

**НА ЗДЫМКАХ: Вілі ЯНКЕЛЕВІЧ і яго работы "Свята Нептуна" і "Чарнобыль 2050 года".**

**Фота Віктара СТАВЕРА.**







**Ён, вядома ж, не Сымон-музыка з аднайменнай паэмы Якуба Коласа, але ў другакласніка крычаўскай сярэдняй школы № 5 Руслана КЛІМЯНКОВА ўсё ж многа агульнага з гэтым літаратурным героем. Руслан таксама іграе на скрыпцы. І нядрэнна. Інакш не ўзялі б яго ў фальклорны ансамбль раённага Дома дзіцячай творчасці.**

**Фота Валерыя БЫСАВА.**

## У ДЗЯРЖАЎНЫМ КАМІТЭЦЕ ПА СПРАВАХ РЭЛІГІЙ І НАЦЫЯНАЛЬНАСЦЕЙ РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ

**Адзін з галоўных накірункаў дзейнасці Дзяржкамітэта па справах рэлігій і нацыянальнасцей Рэспублікі Беларусь — удасканаленне прававой базы ўзаемаадносін з беларусамі замежжа. У сувязі з гэтым Дзяржкамітэтам пачата распрацоўка праекта закона "Аб суайчынніках, якія пражываюць за мяжой". Гэты закон павінен юрыдычна замацаваць статус, правы і льготы суайчыннікаў, якія могуць прадстаўляцца ім беларускай дзяржавай.**

**Мы ўдзячныя старшыні праўлення культурна-асветнага таварыства "Уздым" у г. Даўгаўпілсе (Латвія) С. Валодзьку за грунтоўныя прапановы да праекта азначанага закона, дасланыя камітэту.**

**Зрабіць свой уклад у гэтую справу могуць усе жадаючыя. А ў пачатку ліпеня г. г. плануем запрасіць кіраўнікоў беларускіх арганізацый для абмеркавання праекта.**

**Запрашаем да супрацоўніцтва.**

**Іван ЯНОВІЧ,**
**намеснік старшыні камітэта.**

*СА СТАРОГА КУФРА*

# ТУРАВА-МАЗЫРСКІЯ СТРОІ



Турава-мазырскія строі — традыцыйны комплекс беларускага народнага адзення на Усходнім Палессі. Бытаваў у XIX — сярэдзіне XX стагоддзяў, пераважна ў Жыткавіцкім, Ельскім, Лельчыцкім, Мазырскім, Петрыкаўскім і Столінскім раёнах. Яму ўласцівыя разнастайнасць форм адзення, паліхромнасць і маляўнічасць вышыўкі гладдзю. Жаночы гарнітур меў 2 варыянты: кашуля, 2 фартухі, гарсэт (кабат), намітка; кашуля, андарак або спадніца, фартух, хустка.

Кашулю кроілі з прамымі плечавымі ўстаўкамі або з гесткай са стаячым ці адкладным каўняром. Буйнарапортны арнамент вышыўкі крыжыкам у чырвона-чорным каларыце кампанаваўся ў выглядзе папярочнай паласы ў верхняй частцы рукава (радзей на грудзях), асобнымі рапортамі размяшчаўся ў шахматным парадку пасярэдзіне рукава. У кашулях з гесткай арнамент часцей вышывалі гладдзю і кампанавалі ўздоўж лініі крою. Пераважалі раслінныя матывы — кветкі і лісце руж, ягады і лісце каліны, кветкі вяргіні, шыпшыны; сустракаліся таксама стылізаваныя вывы птушак, геаметрычныя ўзоры. Фартухі-крыскі шылі з адной полкі андарачнай суконнай тканіны з гарызантальнымі вохрыста-чырвонымі паскамі (на падоле ўзорысты шляк ткалі ў закладной тэхніцы). Белыя фартухі шылі з 1—2-х полак палатна ці паркалю, аздаблялі вышыўкай гладдзю, карункамі, фальбонкамі. Андаракі найчасцей чырвона-малінавыя, затканыя падоўжанымі бела-вохрыстымі палоскамі, або клятчастыя ці гладка афарбаваныя чырвоныя, зялёныя, блакітныя. Спадніцы шылі з цёмна-сіняга, блакітнага, чорнага саціну, саржы, шоўку, "шарсцянкі", каля падола аздаблялі 2—3 шлякамі нашывак пярэстых тасёмак, белых карункаў; прасавалі ў складкі. Гарсэты кроілі накшталт каротката ліфа з серабрыстай або залацістай парчы, набіванага саціну, паркалю, шоўку, "шарсцянкі" (спераду паміж гарсэтам і поясам фартуха ўтваралася фальбона — напуск кашулі). На грудзях гарсэт аздаблялі нашыўкамі пасаў з рознакалерных тканін, карункавых тасёмак. Галаўныя ўборы жанчын — намітка, чапец, хустка — белая даматканая льняная ці паркалёвая, багата аздобленая гладдзю паліхромнага расліннага ўзору, махрамі, і фабрычная — чырвоная, сіняя, чорная.

Мужчынская кашуля была тунікападобнага крою з багата вышытай манішкай (арнамент геаметрычны ці раслінны), падпярэзвалі поясам. Нагавіцы шылі з палатна і сукна. Вопратку — казачыну, світу, кажух — аздаблялі нашыўкамі і аплямоўкамі з сукна ці саціну, фалдаваннем, вышыўкай, штапам.


Рэдактар
Вацлаў МАЦКЕВІЧ

ЗАСНАВАЛЬНІКІ:
Дзяржаўны камітэт па справах рэлігій і нацыянальнасцей Рэспублікі Беларусь;
Беларускае таварыства дружбы і культурнай сувязі з зарубежнымі краінамі;
Беларускае таварыства па сувязях з суайчыннікамі за рубяжом (таварыства «Радзіма»).



НАШ АДРАС:
220005, Мінск, праспект Ф. Скарыны, 44.

Тэлефоны: 213-31-97, 213-32-80, 213-30-15, 233-16-56, 213-37-82.

Пазіцыя рэдакцыі і аўтараў, матэрыялы якіх друкуюцца на старонках «Голасу Радзімы», не заўсёды супадаюць.

Газета набрана, звярстана і аддрукавана ў друкарні «Беларускі Дом друку».
(220041, г. Мінск, пр. Скарыны, 77).
Тыраж 1 835 экз. Індэкс 63854. Зак. 508.
Падпісана да друку 30. 3. 1998 г. у 12.00.
Рэгістрацыйнае пасведчанне № 81.